# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD

POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год. XXVII, № 250 New York, February — Люты 1978 Vol. XXVII, № 250


**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**

**Галоўная Ўправа — Управа Акругі Нью Ёрк — Управа Аддзелу ў Нью Джэрзі,**

**АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ**

запрашаюць на

**ЎРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 60-ЫХ УГОДКАЎ**

**ПЕРШАГА УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ**

**і**

**АКТУ 25 САКАВІКА 1918 ГОДУ**

**АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ,**

што адбудзецца 2-га красавіка 1978 году.

**У ПРАГРАМЕ:**

**10-ая гадз. раньні: Урачыстая Божая Служба ў Катэдральным Саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлянтык Авэню ў Брукліне);**

**2:30 гадз. папаўдні: Урачыстая Акадэмія ў Білтмор Гатэлі (Мюзык Рум) на Мэдысон Авэню й 43-ай вуліцы ў Мангэтэне.**

## ПЕРАД ТРЭЙЦІМ БЕЛАРУСКІМ ФЭСТЫВАЛЕМ

Пачаліся ўжо рыхтаваньні да трэйцяга з чаргі гадавога Беларускага Фэстывалю, які заплянаваны на сыботу 20 травеня сёлета ў Цэнтры Мастацтваў штату Нью Джэрзі. Хоць галоўны ўдзел у ягоным арганізаваньні й мастацкай праграме прыймаюць Беларусы двух штатаў ЗША — Нью Джэрзі й Нью Ёрку, ён успрыймаецца, як і дзьве папярэднія фэстывалі 1976 і 1977 гадоў, у некаторай меры як агульнабеларуская падзея на чужыне.

Ніякага перабольшаньня ў гэтым нямашака. Беларускія фэстывалі ў Нью Джэрзі выходзяць далёка за межы лякальнае падзеі. Перш-наперш яны, фэстывалі гэтыя, служаць агульнанацыянальным заданьням ня толькі ў галіне культурнай, а й грамадзкай ды навет палітычнай. Апрача гэтага, яны сталіся моцным імпульсам для аналягічнай дзейнасьці ў іншых беларускіх асяродках Вольнага Сьвету паза Амэрыкай. У значнай ступені пад іхным уплывам і за іхным прыкладам зрадзілася ўсюды належнае дацэньваньне ролі й значаньня папулярызаваньня імя Беларусі й нашае нацыянальна-вызвольнае ідэі за пасярэдніцтвам беларускага народнага, а дзе магчыма, і прафэсыянальнага мастацтва. У далейшым выніку ўсё гэта выдатна спрычыніецца да актывізацыі культурнай і мастацкай дзейнасьці й павышэньня ейнага ўзроўню ў нашых эміграцыйных асяродках ды ўзмацняе пачуцьці нацыянальнае гордасьці за свае дасягненьні.

Беларускія фэстывалі адыгрываюць асабліва выдатную ролю ў жыцьці нашае моладзі. Сваім масавым энтузыястычным удзелам у іхнай мастацкай праграме ды шчырым захапленьнем сваімі народнымі касьцюмамі, у якіх выступае на сцэне, яна жыва культывуе ў сабе пачуцьцё беларускага патрыятызму й любасьці да ўсяго роднага. Зьяву гэтую даволі выявілі абодвы ранейшыя фэстывалі. Навет „Новое Русское Слово" ў сваёй справаздачы зь леташняга Фэстывалю не занядбала адзначыць, што „вялікая колькасьць маладых людзей, якія радзіліся ўжо ў Амэрыцы, гаварылі таксама на сваёй роднай мове". А ў сёлетнім Трэйцім Беларускім Фэстывалі прадбачыцца значна большы ўдзел моладзі, навет і дзяцей у школьным веку. Ужо адно ў гэтым дачыненьні беларускія фэстывалі выконваюць важную нацыянальную функцыю.

Асабліва важны, калі не найважнейшы навет, аспэкт фэстывалёў — палітычны. Як ведама, беларускае народнае й прафэсыянальнае мастацтва ды ўсё культурнае жыцьцё ў паняволенай бацькаўшчыне асабліва апошнімі гадамі сталася аб'ектам узмоцненай русыфікацыі й заціраньня ягонага нацыянальнага характару. І ў мастацкай самадзейнасьці, і ў прафэсыянальных вакальных і харэаграфічных выступленьнях беларускаму рэпэртуару адводзіцца другараднае й трэйцяраднае месца ды й той наскрозь прасякнуты партыйнай прапагандай. Заміж беларускай аўтэнтычнай народнай і стылізаванай пад народную вопраткі, аздобленай высока мастацкімі ўзорамі народнага ткацтва, вязаньня й вышыўкі, густа пярэсьціцца на сцэнах канцэртаў тыпова расейскія сарафаны, какошнікі й мужчынскія касавароткі, а таксама тыповыя ўзоры іншых народаў, зусім чужыя й няведамыя народу беларускаму.

Затое беларускія фэстывалі на чужыне, ня ў прыклад сцэнічнаму мастацтву на бацькаўшчыне, годна пераховаўваюць і культывуюць праўдзівае, ня зрусыфікаванае й ня зьдэфармаванае беларускае мастацтва, і тым самым ужо супрацьдзеяць русыфікатарскаму наступу ў нас дома. З увагі на антыбеларускія тэндэнцыі на бацькаўшчыне галіна гэтая вельмі важная й адказная. Таму да мастацкага рэпэртуару, як і да народнай вопраткі ў сцэнічных выступленьнях тут на Захадзе трэба падыходзіць вельмі рупліва й кваліфікавана. Асабліва будзе гэта датычыць да Трэйцяга Беларускага Фэстывалю, на якім дэманстраваньню народных касьцюмаў із самых розных мясцовасьцяў Беларусі мае быць прысьвечаная значна большая ўвага.

Як паказалі абодвы ранейшыя фэстывалі, прысутныя на іх Амэрыканцы й амэрыканская прэса куды больш цікавіліся й захапляліся беларускімі народнымі касьцюмамі й сакрэтамі іхнага вырабу, чымся рэпэртуарам і выкананьнем канцэртных праграмаў. Непаўторная прыгажосьць беларускіх народных узораў, якая бадайшто ня мае сабе роўных сярод іншых народаў, выклікае ў сьвеце заслужанае прызнаньне й пашану да геніяльнага таленту беларускага народу й выдатна падымае ягоны аўтарытэт у сьвеце.

Добры посьпех абодвых фэстываляў забясьпечыла й тая акалічнасьць, што яны былі рыхтаваныя й праводжаныя на здаровых грамадзкіх асновах — на асновах поўнае згоды, нацыянальнага адзінства й узаемнага суладнага супрацоўніцтва шырокага грамадзтва. Дзякуючы гэтаму, нашыя суродзічы ў цэлым сьвеце зусім правільна ставілі абодвы ранейшыя фэстывалі ў якасьці прыкладаў для самых сябе. На гэткіх-жа асновах рыхтуецца й Трэйці Беларускі Фэстываль. А гэта ў сваю чаргу добра сьветчыць пра нашую грамадзкую й палітычную дасьпеласьць.

На чале Беларускага Фэстывальнага Камітэту, як ягоны старшыня, паранейшаму стаіць д-р Вітаўт Кіпель, які бліскуча вывязваўся раней з узятых на сябе абавязкаў. Ён ня толькі адважна праводзіў у жыцьцё згаданыя вышэй прынцыпы ўзаемнага й згоднага грамадзкага супрацоўніцтва, але й сам быў гарачым энтузыястам фэстываляў, не шкадаваў для іх ні часу, ні энэргіі, ні асабістай ахвярнасьці. Беларускае грамадзтва належна ацаніла гэтыя ягоныя якасьці й дае яму патрэбнае падтрыманьне й дапамогу ў арганізаваньні й Трэйцяга Фэстывалю.

Не зважаючы на тое, што беларускія фэстывалі ладзяцца пакульшто ў малой і амаль бязьлюднай мясцовасьці Цэнтру Мастацтваў штату Нью Джэрзі, яны сталіся свайго роду Беларускімі Днямі для нашых суродзічаў усяе Паўночнае Амэрыкі. На гэтыя фэстывалі зьяжджаюцца Беларусы із самых аддаленых пунктаў Амэрыкі. Апрача прыемнасьці пабачыць і праслухаць фэстывальную праграму ды перажыць гадзіны патрыятычнага ўздыму, яны выкарыстоўваюць гэтую нагоду й для таварыскіх сустрэчаў і гутарак, якія ў сваім выніку таксама мабілізуюць і натхняюць іх на грамадзкую актыўнасьць у сябе дома. Пажадана, каб яшчэ большая колькасьць Беларусаў зьехалася на Трэйці Беларускі Фэстываль ды каб стаўся ён яшчэ больш шматлюдным Беларускім Днём.

З усяго вышэй сказанага бачым што беларускія фэстывалі ў Нью Джэрзі — выняткава важная культурная, грамадзкая й палітычная падзея. Застаецца ад усяе душы пажадаць, каб паміж Беларускім Фэстывальным Камітэтам і беларускімі арганізацыямі ды паасобнымі Беларусамі запесьнілася як найбліжэйшае ўзаемнае супрацоўніцтва для агульнае нацыянальнае карысьці.

**Ст. Станкевіч**

## БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ 1978
## ТРЭЙЦІ ЧАРОДНЫ

І сёлета беларускае грамадзтва атрымала згоду ад Цэнтру Мастацтваў Штату Нью Джэрзі на арганізаваньне Трэйцяга Беларускага Фэстывалю 20-га травеня сёлета. Бясспрэчна, гэта важны грамадзкі здабытак.

Адміністрацыйная й арганізацыйная праца над Фэстывалем пачалася. Не сакрэт, што наладжаньне й правядзеньне Фэстывалю — заданьне ня лёгкае, а цяжкое. Асабліва шмат праблемаў на адрэзку адміністрацыйным. І тым ня менш, знаходзяцца энтузыясты-дабраахвотнікі, якія за працу бяруцца. На мой пагляд, заданьне беларуска-амэрыканскага грамадзтва — працу гэтых дабраахвотнікаў падтрымаць і перадусім з такіх меркаваньняў:

— посьпех ці няўдача фэстывалю — гэта справа ўсяго грамадзтва;

— актыўнасьць фэстывальная, бадай як ніякая іншая, прыцягвае да працы моладзь і ўцягвае яе ў беларускі рух;

— рыхтаваньне да фэстывалю — пара значнага ажыўленьня грамадзкае дзейнасьці;

— праз фэстываль мы пашыраем кола нашых прыяцеляў ды знаходзім супольную мову з Амэрыканцамі беларускага паходжаньня другога й трэйцяга пакаленьня;

— дзень фэстывалю — гэта незабыўны дзень беларускае сустрэчы, дзень беларускае культуры ў Задзіночаных Штатах ды дзень нашага маральнага задаваленьня.

Сёлетняя праграма, як прадбачыцца, будзе бадай цалкам адноўленая. У плянах пастаноўка „Купальля", выступленьні гімнастаў, беларускіх аркестраў, цымбалістых, ды, як летась, хораў, салістых, ансамбляў, танцавальных гурткоў. Шырака ўзбагачаная праграма перадфэстывальных выступаў, асартымэнт сувэніраў, кружэлак ды спэцыяльных мастацкіх выставак. Спартовыя спаборніцтвы, беларуская музыка, парад касьцюмаў ды падняцьце беларускіх сьцягаў — гэткая плянуецца сёлетняя імпрэза ў Цэнтры Мастацтваў штату Нью Джэрзі.

За Беларускі Фэстывальны Камітэт

**В. Кіпель**

## БЕЛАРУСКІМІ ФЭСТЫВАЛЯМІ ЗАЦІКАВІЛІСЯ У МЕНСКУ

Ад розных асобаў, што апошнім часам наведалі Беларусь, рэдакцыі „Беларуса" сталася ведама, што два Беларускія Фэстывалі, праведзеныя летась і пазалетась у ньюджэрзійскім штатавым Цэнтры Мастацтваў, выклікалі вялікае зацікаўленьне ня толькі сярод звычайных жыхароў Беларусі, якія даведаліся пра фэстывалі праз асабістыя кантакты або з радыяперадачаў, але ня меншую цікавасьць (і пэўную ўстрывожанасьць) з боку афіцыйных дзейнікаў падсавецкае Беларусі. Пацьвердзілі гэткія інфармацыі і некаторыя крыніцы пры Задзіночаных Нацыях у Нью Ёрку. Беларускай сталай місіі пры АЗН у Нью Ёрку даручана было падаць дакладныя інфармацыі ў Менск пра першыя два фэстывалі ды сыстэматычна інфармаваць пра далейшы ход гэтае формы дзейнасьці беларускае эміграцыі ў Амэрыцы. Асабліва зацікавіў і ўсьцешыў некаторых людзей на Беларусі ўдзел беларуска-амэрыканскае моладзі ў правядзеньні фэстываляў у Амэрыцы, патрыятычна настаўленых Беларусаў, як сьветчаньне нацыянальна-культурнае пераёмнасьці пакаленьняў беларускае эміграцыі, а афіцыйныя колы, як фактар, які трэба ўлічваць у культурнай палітыцы ў сябе дома.

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
### (ДА 140-ГОДЗЬДЗЯ НАРАДЖЭНЬНЯ)

Сёлета ў лютым спаўняецца сто сорак гадоў ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага. Хоць апошнімі гадамі Каліноўскі ў савецкай гістарыяграфіі й „рэгабілітаваны" часткава, зь ім і дасюль выраблююцца несамавітыя рэчы ў духу асуджанае ў прынцыпе, але не ўва ўсіх сваіх праявах, вульгарна-сацыялягічнае крытыкі трыццатых гадоў.

Арганізатар і кіраўнік паўстаньня 1863 году, выдавец газэты „Мужыцкая Праўда", Кастусь Каліноўскі, які 1920-мі гадамі ўважаўся, згодна зь гістарычнай праўдай, за гэроя свайго народу, на пачатку 1930-ых гадоў зь ініцыятывы партыйных вярхоў быў абвешчаны „гэроем беларускага **шляхецтва**". Ён і дасюль поўнасьцяй не ачышчаны ад напластаваньняў тэндэнцыйнасьці й хлусьні.

Вось канкрэтны прыклад, як у першым томе „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" (Менск, 1965 г.) — выданьні АН БССР, і, здавалася-б, навуковым, аб'ектыўным — затушоўваецца адна важная дата, што мае дачыненьне і да Кастуся Каліноўскага, і да гісторыі беларускае літаратуры, і да гісторыі тэатру. Ход пра п'есу „Кастусь Каліноўскі" Яўсыгнея Міровіча. „П'еса Міровіча — як піша Анатоль Семяновіч у сваёй кнізе 1968 году „Беларуская савецкая драматургія", „была адначасова і першым мастацкім творам наагул у беларускай літаратуры аб выдатным сыне беларускага народу, бо да яе ў нашай літаратуры ня было навет вершаў аб кіраўніку паўстаньня супраць царызму на Беларусі . . . Да гонару Міровіча, якому па сутнасьці прыходзілася ўзьнімаць цаліну,—піша Семяновіч—гістарычныя падзеі ў п'есе адлюстраваны ў асноўным правільна, і п'еса, як гаворыць Кандрат Крапіва ў адным із сваіх артыкулаў, 'робіць уражаньне вельмі добрасумленнай работы' ".

Першы паказ п'есы Міровіча „Кастусь Каліноўскі" — Семяновіч у сваёй кнізе адзначае гэтую дату — адбыўся другога лістапада 1923 году ў Менску ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры — падзея цімалаважнага значаньня і з гледзішча на развіцьцё нашае культуры, і з гледзішча на ўвагу беларускага народу да памяці пра свайго нацыянальнага гэроя.

Зазірнем цяпер у першы том згаданае акадэмічнае „Гісторыі беларускае савецкае літаратуры". У канцы кнігі зьмешчаная „Хроніка літаратурнага жыцьця". Хроніка даволі дэтальная, бо займае аж 79 бачынаў друку. У хроніцы гэтай пералічаюцца ня толькі важнейшыя прэм'еры тэатральных паказаў — скажам, у ёй адзначана, што першага сьнежня 1920 году Беларускі Дзяржаўны Тэатр паставіў драму „Раськіданае гняздо" і ўпяршыню — камэдыю „Прымакі" Янкі Купалы — але й гэткія дробныя для гісторыі падзеі, як вечар пралетарскае паэзіі ў клюбе Карла Маркса, або вечар Някрасава, „арганізаваны пралетарскімі курсамі сацыялістычнага выхаваньня", або йшчэ лепш: апублікаваньне ў газэце „Звезда" вершу Дзямяна Беднага „Нашим братьям, польским крестьянам" ды да гэтага падобныя „падзеі" — сьветчаньне афіцыйна вымаганага нізкапаклонства перад Усходам. Але вось у лістападзе 1923 году ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры адбыўся першы спэктакль п'есы Міровіча „Кастусь Каліноўскі". Вы думаеце ўкладальнікі хронікі да першага тому „Гісторыі беларускае савецкае літаратуры" адзначылі гэтую падзею? Дзямян Бедны зь ягоным вершам для іх быў важнейшы як Яўсыгней Міровіч з п'есай „Кастусь Каліноўскі"...

Анатоль Семяновіч у сваёй кнізе „Беларуская савецкая драматургія" піша, што Міровічава п'еса „Кастусь Каліноўскі" дваццатымі гадамі „адыгрывала вялікую выхаваўчую ролю, станоўча ўплывала на фармаваньне рэвалюцыйнага сьветапогляду нашай моладзі. І не выпадкова маладыя глядачы патрабавалі, каб у дні пастановы драмы ў Беларускім тэатры вывешваўся патрэт Каліноўскага й давалася кароткая біяграфія".

Тэма мінуўшчыны Беларусі дваццатымі гадамі — ня ў прыклад 1970-ым гадом — займала вельмі важнае месца ў культурным жыцьці савецкае Беларусі. Вялікай была і ўвага да аднае з самых сьветлых постацяў мінуўшчыны рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага. У 1928 годзе Міровічава п'еса „Кастусь Каліноўскі" была экранізаваная і, як адзначае Семяновіч, „зь вялікім посьпехам ішла ў кінатэатрах краіны". „У рэпэртуары першага БДТ, — піша далей Семяновіч, — яна пратрымалася да 1930 году і была зьнятая таму, што ў пачатку 30-х гадоў дзейнасьць Каліноўскага пачала разглядацца некаторымі нашымі гісторыкамі, вульгарнымі сацыёлягамі ў скажоным сьвятле. Першы беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат быў залічаны ў лягер буржуазных нацыяналістаў, а п'еса аб ім у шэраг 'антысавецкіх п'эсаў' ".

Сяньня Кастусь Каліноўскі, быццам-бы, і рэгабілітаваны: пра яго — у паваенным пэрыядзе ўжо — напісаныя манаграфіі, артыкулы, раман, аповесьць, паэма, вершы. Але творчая спадчына самога Каліноўскага — сем нумароў выдаванае ім падпольнае газэты „Мужыцкая Праўда" ды ягоны славуты ліст да беларускага народу „спад шыбеніцы маскоўскай"—гэтак і дасюль поўнасьцяй ня выдадзеныя, хоць намаганьні зрабіць гэта ў беларускім грамадзтве вядуцца ўжо даўно, аднак, тымчасам бязь ніякіх вынікаў. Не па нутры гэткае выданьне, відаць, некаторым сучасным духовым спадкаемцам Мураўёва-вешацеля, якія й сяньня бачаць „угрозу отечеству" ў „мяцежных" выказваньнях Кастуся Каліноўскага.

Між іншага, поўныя тэксты ўсіх сямёх нумароў газэты „Мужыцкая Праўда" ды пераклад іх у ангельскую мову былі апублікаваныя летась у гадавіку „Запісы" (кн. 14) Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку.

Забарона на публікацыю гэтых тэкстаў у савецкай Беларусі сьветчыць аб тым, што пасьля таго, як сталінскія г. зв. „вульгарныя сацыёлягі" запісалі Каліноўскага ў „лягер беларускіх буржуазных нацыяналістаў", сучасныя савецкія цэнзары ўсё йшчэ баяцца выпісаць яго з гэнага „лягеру".

**Я. Запруднік**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 250 НУМАРОЎ "БЕЛАРУСА"

Дзьвесьце пяцьдзесят нумароў таму, 20 верасьня 1950 году, выйшаў у Нью Ёрку першы нумар газэты „Беларус". Мала хто з сучасных чытачоў газэты думаў-гадаў тады, што яму давядзецца быць там, дзе ён ці яна цяпер знаходзіцца. Бальшыня з нас зьмяніла месца жыхарства, шмат хто зьмяніў свой занятак, кажны бяз вынятку адчуў на сабе зьмену часу ды зьмену стану рэчаў. Адно толькі засталося нязьменным: патрэба лучнасьці з краем свайго паходжаньня й з родным народам, клопаты пра долю нацыянальнае культуры, намаганьні, жывучы раськіданымі, трымацца разам, пранятасьць пра долю Бацькаўшчыны. Усё гэта й забясьпечыла цягласьць газэты, якая, не зважаючы на ўсе цяжкасьці, перашкоды й нягоды, перажыла, выжыла й дажыла да свайго чверцьтысячнага нумару.

Адзначаючы гэты факт, Рэдкалегія „Беларуса" ўшаноўвае гэтым перш-наперш працу ўсіх сваіх папярэднікаў — упаасобку былых рэдактароў газэты, інж. Міхася Рагулю, сп-ню Натальлю Арсеньневу й сп. Міхася Міцкевіча — самахвярная праца якіх забясьпечыла „Беларусу", хоць і зь некаторымі перапынкамі, цягласьць выхаду.

Цімалаважнае значаньне — мы хочам падчыркнуць гэта — мела й мае падтрыманьне газэты, маральнае й матар'яльнае, збоку ейных чытачоў, інтарэсамі якіх выдаўцы заўсёды кіраваліся, дасягненьні й праблемы якіх імкнуліся задакумэнтаваць ды пагляды й перакананьні якіх адлюстроўвалі на бачынах „Беларуса".

У выніку ўсяго гэтага газэта сталася сяньня ня толькі найбагацейшай крыніцай дакумэнтальнага матарыялу пра беларускае жыцьцё эміграцыі на працягу 27-гадовага пэрыяду, але й выказьнікам імкненьняў нацыянальна сьведамага беларускага грамадзтва, як на эміграцыі, гэтак і на Бацькаўшчыне.

Выдаючы 250-ы нумар газэты, запэўняем нашых Паважаных Чытачоў, што мы й надалей будзем кіравацца дабром вольнае й дэмакратычнае Беларусі ды свабоднае й магутнае Амэрыкі, будзем імкнуцца, наколькі дазволіць нам ступень супрацоўніцтва з намі ўсіх нашых карэспандэнтаў і дапішчыкаў — таксама самаахвярных працаўнікоў газэты — зрабіць газэту інфарматыўнай і цікавай, а таксама выказьніцай Беларускае Нацыянальнае Ідэі, каб і ўсе ейныя далейшыя нумары, як і папярэднія 250, былі годным дакумэнтам свае гістарычнае эпохі.

**Рэдкалегія „Беларуса"**

# ВЫКАРЫСТАЙМА НАШЫЯ МАГЧЫМАСЬЦІ

## (МАТАРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫСКУСІІ)

Вось хутка ўжо будзе 30 год, як пачалася новая паваенная беларуская эміграцыя ў Аўстраліі. Няма гэтта патрэбы ўспамінаць аб тых вялікіх цяжкасьцях, якія нам давялося перанесьці. Пра гэта пісалася ціраз у беларускай прэсе, няраз таксама дыскутавалася на розных зборках, імпрэзах, гаварылася на сьвятkаваньнях. На працягу доўгага часу ад сканчэньня нашых кантрактаў працы мы распачалі тут, прынамся ў некаторых сталіцах аўстралійскіх штатаў, нашую грамадзкую й да некаторай ступені грамадзка-рэлігійную дзейнасьць. І ў гэтым мы маем даволі вялікія дасягненьні, хоць і шмат меншыя за некаторых нашых суседзяў. Якія й чаму меншыя — разважаць на гэтую тэму шырэй ня будзем, а зьвернем увагу перадусім на нашыя магчымасьці тут у Аўстраліі, якіх мы ня выкарыстоўвалі, а якія ад нейкага часу пачынаюць збольшвацца ў нашую карысьць.

Калі верыць абяцанкам прэм'ерміністра Аўстраліі, дык ягоны ўрад будзе імкнуцца й далей праводзіць палітыку шматкультурнасьці паводля канадыйскага ўзору. Радыястанцыі для этнічных групаў у сталіцах штатаў і новая тэлевізыя — гэта толькі дзьве із шматлікіх абяцанак лібэральнай партыі (і работніцкай таксама), якімі мы павінны былі-б зацікавіцца.

У Мэльбурне мы выкарысталі магчымасьці мець нашыя беларускія радыяперадачы ў працягу 18 месяцаў. Пасьля закрыцьця радыястанцыі 3ZZ у ліпені летась, чакаем усё яшчэ на абяцаны дазвол мець такія-ж перадачы ў радыястанцыі 3ЕА. Маем надзею, што гэты дазвол атрымаем. У Сыднэі ўжо ад даўжэйшага часу існуюць гэткія беларускія радыяперадачы й на высокім узроўні. І ў Сыднэі, і ў Мэльбурне мы ня мелі ніякіх „спэцаў" ад радыя, проста вучыліся на нашых собскіх памылках ды слухалі прыязнай рады сваіх і чужых слухачоў. Мы думаем, што тыя дасягненьні, якія мы мелі й маем у Мэльбурне й Сыднэі, могуць служыць прыкладам для нашых суродзічаў у Адэляйдзе й Пэрце, калі й там заіснуюць магчымасьці мець беларускія радыяперадачы. Пры нагодзе трэба падчыркнуць, што мы за мала выкарыстоўваем дазнаньне й эвэнтуальную рэчовую помач беларускай сэкцыі Радыя Свабода-Вольная Эўропа. Тэлевізыю для этнічных групаў трэба было-б выкарыстаць прынамся ў такой меры, як і этнічнае радыё, хоць з гэтым напэўна будуць зьвязаныя шмат большыя клопаты. Добрая воля можа шмат зрабіць.

Трэйцім вельмі важным пунктам у праграме нашай вонкавай дзейнасьці ёсьць наш удзел у міжнацыянальных арганізацыях. Удзел гэты проста неабходны, калі мець наўвеце нашую нацыянальную карысьць. Міжнацыянальныя арганізацыі, прыкладам, Камітэт Паняволеных Народаў, ладзяць розныя рэфэраты, канцэрты, балі, выстаўкі, у якіх мы, хоць і не заўсёды можам прыняць удзел, затое прынамся ў плякатах, інфармацыйных абвестках успамінаецца назоў нашае бацькаўшчыны. Калі мова пра выстаўкі, дык трэба ўсебакова іх выкарыстоўваць для папулярызацыі Беларусі сярод іншых этнічных групаў і таксама Аўстралійцаў. Трэба рупіцца, каб дзяжурныя-інфарматары маглі даваць наведвальнікам дакладныя інфармацыі пра Беларусь.

Неабходнай і нязвычайна пільнай справай — гэта выданьне хоць-бы малой інфармацыйнай брашуры ў ангельскай мове. На нашыя, маю тут на думцы Мэльбурн, шматгадовыя просьбы й звароты ў гэтай справе да нашых дзеячоў у ЗША й Канадзе мы дагэтуль нічога канкрэтнага не атрымалі. Мне здаецца, што выдаць патрэбную нам брашуру мы ў Аўстраліі зможам і самі, выкарыстаўшы ўсе тыя матарыялы, якія дагэтуль удалося сабраць. Справа гэтая надзвычайна пільная й да яе трэба прыступіць неадкладна, заразжа.

Гаворачы пра папулярызацыю нашай бацькаўшчыны, нельга абмінуць розных урадавых штатавых і фэдэральных установаў, дзе пра нас бадайшто нічога ня ведаюць або ня хочуць ведаць. Датычыць гэта перадусім да Фэдэральнага Бюра Статыстыкі, якое падае колькасьць Беларусаў у Аўстраліі супольна з Расейцамі, і штатавага Дэпартаманту — аддзел „Комюніты Сэрвіс". Гэты апошні, падаючы пералік этнічных арганізацыяў і ўстановаў, прыкладам, у штаце Вікторыя, апрача парахвіі БАПЦ, не ўспамінае наагул пра Беларусаў. Віна ў гэтым перадусім нас саміх, бо мы, пасьля 30-ёх гадоў пражываньня ў Аўстраліі, усё яшчэ баімося, каб нашае прозьвішча, барані Бог, не апынілася дзесьці ў урадавай установе, якая займаецца рэгістрацыяй этнічных арганізацыяў. І вось, з прычыны нашай хвараблівай боязі, мы афіцыйна ў Аўстраліі ня існуем, хоць Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (а савэтчыкі маюць дакладныя інфармацыі) падае, што Беларусаў у Аўстраліі больш за 10 тысячаў чалавек.

Выдзяленьне Беларусаў у апрычоную этнічную групу Бюром Статыстыкі й нашая рэгістрацыя ў штатавых аддзелах „Комюніты Сэрвіс" — гэта справа, якой трэба заняцца безадкладна.

Парахвіі БАПЦ павінны былі-б існаваць у тых штатах, дзе пражывае большая колькасьць Беларусаў. На жаль, мы бачым, што існуюць дзьве парахвіі. А на прыкладзе Адэляйды пераконваемся, што беларуская парахвія можа існаваць, навет вельмі добра працаваць і безь сьвятара-Беларуса. Таму трэба імкнуцца, каб у Сыднэі й Пэрце паўсталі беларускія праваслаўныя парахвіі. Навет і сяньня ніхто ня будзе аспрэчваць тае вялізарнае ролі, якую адыгрывае царква ў жыцьці народу на бацькаўшчыне, а перадусім на эміграцыі.

На працягу колькіх апошніх год дачыненьні аўстралійскага ўраду — фэдэральнага й штатавых да эмігрантаў — этнічных групаў у васноўным зьмяніліся. Няма ўжо й мовы, як гэта было калісьці, аб асыміляцыі. Гаворыцца аб інтэграцыі, гаворыцца й шмат пішацца аб шматкультурнасьці. Некаторым большым этнічным групам аўстралійскі ўрад дае субвэнцыі на вядзеньне сыботніх школаў, летніх лягераў для моладзі, дае беззваротную грашовую дапамогу на будову дамоў для пэнсыянераў.

Коратка, для этнічных групаў адчыняюцца вялізарныя магчымасьці, якіх яны перад гэтым ня мелі. Дык выкарыстайма-ж іх належна, выканайма наш нацыянальны беларускі абавязак, узложаны на нас нашай доляй!

**А. К-а**

# Я НАВЕДАЎ РОДНУЮ БЕЛАРУСЬ

У мяне заўсёды было вялікае жаданьне пабываць у Беларусі, палюбавацца цудоўнымі краявідамі роднага краю, прыгледзіцца да жыцьця й быту нашых людзей, пачуць пра іхныя радасьці, іхныя клопаты, іхныя думкі й пагляды на сучаснае іхнае жыцьцё. Сустрэцца з маймі родзічамі, якіх з прычыны даўгое зь імі разлукі ўяўляў як быццам праз сон. А таксама хацелася пераканацца, як жыве родная беларуская мова й разьвіваецца нацыянальная культуры й тым самым сьцьвердзіць, як-жа ў практыцы выглядае праслаўтая ленінская нацыянальная палітыка на Беларусі. І вось колькі год таму я й далучыўся да групы „суайчыньнікаў за мяжой", каб зьдзейсьніць мае лятуценьні — пабываць на Беларусі.

У працэсе афармляньня маіх дакумантаў я ўжо сустрэўся з рознымі дзівоснымі савецкімі законамі пра ўезд на Беларусь. А законы гэныя вельмі грубыя ды, раўнуючы да турыстыкі на Захадзе, проста прымітыўныя. Для турыста толькі Менск, як адзіны пункт на Беларусі, даступны, а паехаць у іншыя мясцовасьці — „нельзя"! Хіба можа яшчэ ў Хатынь, дый то з „праваднíком". А калі хто дастане асабістую візу наведаць родзічаў паза Менскам, дык пры мэльдаваньні ў аддзеле мясцовай міліцыі далікатна скажуць: „Нельзя вам без разрешения отсюда отдаляться". Хіба толькі проста із сваякамі й на сваю руку ўкрадкам зможаце наведаць і іншыя блізкія мясцовасьці. І кажны той, каму даводзілася афармляць дакумэнты на ўезд на Беларусь, сустракаўся з гэтымі дзікімі законамі савецкай рэчаіснасьці.

А калі вы, дарагі суайчыньнік за мяжой, хочаце сьцягнуць да сябе на Захад сваяка зь Беларусі ў госьці, то ўжо ня трэба хадзіць з рознымі анкетамі ў аддзел мясцовай міліцыі, затое даводзіцца проста выкупляць сваяка із Савецкага Саюзу. Перш-наперш трэба ў Савецкім Саюзе выкупіць пашпарт, які каштуе каля 400 рублёў, і аплаціць за падарожжа гэтага сваяка да вас у госьці й назад. А ці чулі вы, дарагі суайчыньнік за мяжой, каб вашыя сваякі ў Савецкім Саюзе аплачвалі вам падарожжа на Беларусь? Напэўна не! Вось тут і ёсьць адна з формаў дзяржаўнага блату. Узяць 400 рублёў толькі за тое, каб атрымаць дазвол наведаць свайго сваяка за мяжой — гэта нячуваны зьдзек! Трэба ведаць, што гэткую суму зарабляюць месячна ў Савецкім Саюзе толькі выбраньня, а многія, што якраз жадаюць наведаць родзічаў за мжжой, атрымліваюць 20 рублёў пэньсіі на месяц.

Дарма вы, суайчыньнік, у агенцтве падарожжа будзеце шукаць самалёту ў сталіцу Беларусі зь якога-небудзь гораду на Захадзе. Усё мусіць ісьці праз Маскву або Ленінград. Сталічны Менск мае ўжо больш аднаго міліёну жыхароў, але Менску не дазволена мець беспасярэдняй лётніцкай сувязі зь ніводным горадам на Захадзе. Навет з Варшавы або Прагі трэба ляцець у Менск праз Маскву або Ленінград. Вось вам і „суварэнная" Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!

Але найбольшае спаткае вас расчараваньне, калі вы ў сталіцы Беларусі захочаце пачуць жывое беларускае слова, пабываць на беларускім канцэрце ці пагутарыць на гэтай мове з жыхарамі Менску. Расейшчына на кажным кроку! Навет праз радыё й тэлебачаньне, за выняткам таго, калі дыктар чытае ў беларускай мове штодзённыя навіны дня. Вечарамі звычайна йдзе трансляцыя з Масквы. Хоць у Менску працуе беларуская кінастудыя пад гучным назовам „Беларусьфільм", але створаныя на ёй фільмы гучаць, як правіла, парасейску. Навет у Музэі імя Янкі Купалы вас сустракаюць прывітаньнем — „здравствуйте!" І толькі пасьля майго пратэсту працаўніца музэю пачала зварачацца да мяне пабеларуску. Навет паінфармавала, што „мужыцкая" беларуская мова была забароненая за царскіх часоў. Калі-ж я пачаў круціць галавой і спытаўся, дзе-ж гэны народ гамоніць на сваёй роднай мове сяньня, то адно паглядзела на мяне зь недаверам. І гэта ў Музэі Янкі Купалы!

У кіёску каля Ленінскага праспэкту заўважыў я газэту „Голас Радзімы". Гэта мяне моцна зьдзівіла, бо я добра ведаў, што „Голасу Радзімы", пашыранага вылучна сярод Беларусаў у замежжы навет зусім задарма й перапоўненага па берагі прапагандавай хлусьнёй, раней у БССР нельга было знайсьці днём з агнём. Аж тут раптам?.. Але прадавец не занядбаў зазначыць, што газэта гэтая ў беларускай мове, даўшы да зразуменьня, што дзеля гэтага ня варта маўляў яе купляць. На прылаўку газэтнага кіёску я таксама заўважыў газэту „Вечерний Минск" у расейскай мове. Але я добра ведаў, што газэта гэтая выдаецца паралельна й у беларускай мове. Калі-ж я запатрабаваў гэтую газэту ў беларускай мове, дык прадавец, зрабіўшы вялікія вочы й загадкава паглядзеўшы на мяне, дастаў спад прылаўка прошаную мною газэту ў беларускай мове, вінавата апраўдваючыся, што ня ўсьпеў яшчэ палажыць яе на прылаўку... Выпадак гэты вельмі вымоўны й характэрны для прадажы газэтаў, кніжак і грамафонных кружэлак у сталіцы „незалежнае" Беларусі!

Дарма шукаў у магазыне „Грампласьцінак" у Менску, каб купіць некалькі добрых беларускіх грамафонных кружэлак. Іх у той час ня было. Было толькі некалькі кружэлак расейска-беларускіх, а так усё завалена чыстай расейшчынай. Навет у цэлай Беларусі няма студыі для прадукцыі кружэлак. Праўда, купіў я кружэлкі зь беларускімі песьнямі „Песьняроў", вярнуўшыся дамоў, у магазыне „Тройка" ў Тароньце, але ня ў Менску!

Самае найгоршае, што вас прыгнятае на Беларусі, гэта п'янства. П'юць дарослыя, п'юць і дзеці. Сталічнай „Маскоўскай" колькі хочаш і дзе хочаш. У магазынах часта немагчыма дастаць рэчаў першай неабходнасьці або патрэбных запасных частак, але затое заўсёды лёгка дастаць сталічную. Каб выканаць норму, прадаўцы прадаюць яе ўсім.

Гатэль, які афіцыйна называецца „Гасьцініца Юбілейная", пабудаваны ў гонар 50-цігодзьдзя БССР. Паводля савецкага стандарту гэта мае быць гатэль першае клясы, але паводля стандарту заходняга — гэта звычайны гатэль сярэдняе якасьці не ў сталіцы, а ў правінцыяльным гарадку. Плата ў гэтым гатэлі вельмі высокая. На Захадзе за гэткія выгады заплацілася-б ня больш палавіцы гэтай цаны. У газэлі гэтым пасяляюцца звычайна замежныя турысты.

Я падаў заяву, каб мне дазволілі паехаць зь Менску да сваякоў у мясцовасьць, дзе я нарадзіўся. Пакуль мне гэты дазвол далі, то ўжо аблічылі, што язда ў таксі будзе каштаваць 130 рублёў. Я адказаў, што гэта для мяне задорага, што я, калі дастану дазвол, магу ехаць іншай формай транспарту. Мне адказалі, што „нельзя", бо я турыст. Можа вы, дарагія суайчыньнікі за мяжой, ведаеце падобныя выпадкі, калі вашым сваяком, прыбылым із Савецкага Саюзу, забараняюць ехаць іншым транспартам, апрача таксі й дорага за яго плаціць?

Трэба аб'ектыўна сказаць, што ў прыраўнаньні з даваенным часам людзі ў Савецкім Саюзе цяпер жывуць лепш, можна адразу заўважыць, што лепш апранутыя. Ёсьць у гэтым сэньсе значны прагрэс, але ён хвальшыва прыпісваецца заслугам „мудрай партыі". Прапагандава сугэруецца пагляд, што калі-б, маўляў, ня партыя, дык людзі жылі-б як і раней. Але-ж прагрэс адбываецца ў цэлым сьвеце й навет куды большы прагрэс там, дзе гэнай „роднай і мудрай партыі" няма. Раўнуючы да заработкаў, жыцьцё на Беларусі вельмі дарагое. Прыкладам, звычайны свэтар каштуе 40-60 рублёў, што раўняецца амаль двухтыднёваму заработку звычайнага працоўнага. А на Захадзе работнік за гэткі-ж самы свэтар заплаціць заработкам за некалькі гадзінаў працы.

Як і ў кажнай паліцыйнай краіне, дзе дзяржаўны лад абапіраецца на органах бясьпечнасьці й тэроры, гэтак і на Беларусі за турыстамі з Вольнага Сьвету ўстаноўлены паліцыйны нагляд, іх часта заклікаюць у КДБ. Гэта там уважаецца зьявай цалкам нармальнай, бо-ж гэткія дачыненьні й да савецкіх грамадзянаў таксама. Усюды й заўсёды шукаюць „ворагаў"!

**Другі суайчыньнік**

# КАЛЯДЫ Ў БЕЛАРУСАЎ МАНЧЭСТАРУ

У сыботу 7 студзеня сёлета адбылося супольнае сьвяткаваньне праваслаўных Калядаў у Беларусаў Манчэстару (Ангельшчына). Урачыстую Службу Божую адправіў настаяцель мясцовае парахвіі Жыровіцкае Божае Маці а. пратаярэй Янка Абабурка. Царква была перапоўненая вернікамі ня толькі мясцовымі, але й прыбылымі зь іншых гарадоў, асабліва масава із суседняга Брадфарду. Пасьля заканчэньня Божае Службы а. прат. Янка Абабурка прачытаў Архіпастырскае Калядняе Пасланьне Першагерарха БАПЦарквы Мітрапаліта Андрэя ды прывітаў із сьвятам усіх прысутных у беларускай і ангельскай мове.

Адразу пасьля Божае Службы ў прасторнай і прыгожа ўдэкараванай залі адбылося супольнае прыняцьце, якое адчыніў старшыня Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Вялікабрытанію Хведар Кажаневіч ды на просьбу ягоную а. прат. Янка Абабурка й прысутны духоўнік англіканскае царквы а. Г. Фрымэн паблагаславілі сталы.

Пасьля супольнага пачастунку некаторыя танцавалі, пялі калядныя й сьвецкія беларускія песьні. У міжчасе сакратар Рады БАПЦ на Вялікабрытанію Янка Калбаса з Брадфарду зьвярнуўся з просьбай зьлажыць ахвяры на царкву, што й было зроблена. Ад імя Брадфардзкай парахвіі сп. Янка Калбаса перадаў калядныя падарункі а. Янку Абабурку й матушцы Кацярыне ў знак удзячнасьці за іхнае рэгулярнае абслугоўваньне парахвіянаў у Брадфардзе. Належыцца заслужаная падзяка матушцы Кацярыне й ейным памочніцам і за добрае падрыхтаваньне сьвяткаваньня.

Варта адзначыць і тое, што нашая царква з кажным годам прыгажэе. Праведзенае цэнтральнае аграваньне ў царкве, царкоўнай канцылярыі й залі дзякуючы стараньням сп. Ул. Гінька, які задарма выканаўшы гэтыя работы, заашчадзіў царкоўных грошай каля 800 ангельскіх фунтаў.

Сьвяткаваньне прайшло ў мілай сяброўскай атмасфэры. Пасьля бяседы некаторыя завіталі ў Беларускі Клюб спрабаваць „беларускага піва". Там-жа быў разданы прысутным Камунікат Рады БАПЦарквы, які быў добра апрацаваны й прыгожа выдадзены. У Клюбе ўстаноўленая скрынка ахвяраў на царкву, зь якой і гэтым разам была вынятая значная сума грошай.

Дык з найлепшымі пажаданьнямі, Дарагія Сябры, да наступных Калядаў!

**М. Стаўпіскі**

# ШЛЯХ ДА СКУЛЬПТУРЫ

## ГУТАРКА З МАСТАКОМ МІХАСЁМ НАЎМОВІЧАМ



Міхась Наўмовіч

**Тут друкуецца гутарка, якую тыдняў колькі перад сваёй нечаканай сьмерцяй правёў з нашым ведамым скульптарам Міхасём Наўмовічам мастак-маляр Уладзімер Шыманец.**

***

**Уладзімер Шыманец**: Паважаны Спадару Прафэсару! Мы, Беларусы Парыжа, сочым Вашае жыцьцё й дзейнасьць ужо больш трыццацёх гадоў. Ведаем мы Вас як студэнта Вышэйшае школы мастацтваў у Парыжы, як рэдактара часапісу „Моладзь", як старшыню Арганізацыі беларускае моладзі, старшыню Аб'яднаньня беларускіх работнікаў, старшыню Беларускіх камбатантаў, а цяпер — старшыню Хаўрусу Беларусаў у Францыі. Ведаем Вас як выкладчыка анатоміі й марфалёгіі ў Мастацкай акадэміі Жульяна ды ў дзяржаўнай Школе фізіятэрапіі Сант Морыс у Парыжы... Гутарыць пра ўсё гэта няма тут магчымасьці, бо трэ было-б сьпісаць аб'ёмісты том. З усяго сяньня хацелася-б крануць адно тое, што датычыцца да мастацтва. Але, спачатку як першае пытаньне: калі, дзе, у якім асяродзьдзі Вы нарадзіліся?



Бюст жанчыны. Мармур, 1951

**Міхась Наўмовіч**: Нарадзіўся ў кастрычніку 1922 г. у Кушалёве, вёсцы, ад якое мае назоў ведамы лясны масыў, што ляжыць кілямэтраў дзесяць ад Навагрэдка, падарозе да Наваельні. Бацька быў селянінам. Вучыўся я ў польскіх школах, спачатку ў сваёй вёсцы, пасьля ў Навагрэдку. У 1937 г. падаўся ў польскую гімназію — беларуская была ўжо польскімі ўладамі зачыненая — прабыў у ёй два гады. Пры бальшавіках вучыўся ў дзесяцігодцы, а ў часе нямецкай акупацыі скончыў беларускую гімназію. Матуральны экзамен здаў у 1944 г. ды адразу падаўся ў Ахвіцэрскую школу БКА (Беларускай Краёвай Абароны) у Менску. Быў пасьля ў Беларускай Дывізіі да восені 1944 г., калі, на францускім фроньце, разам зь іншымі, перайшоў да францускіх партызанаў. Ад іх быў накіраваны ў армію генэрала Андэрса, што ваявала тады ў Італіі.

Пасьля вайны й дэмабілізацыі я пераехаў у Францыю, дзе паступіў у вышэйшую школу мастацтваў у Парыжы на аддзел скульптуры. Закончыў яе ў 1953 г. Жыць із скульптуры аднак было нельга, таму падаўся ў школу фізіятэрапіі, якую скончыў у 1955 г. Год пазьней прыняў францускае грамадзянства ды заснаваў свой фізіятэрапэўтычны габінэт у ваднэй з падпарыскіх мясцовасьцяў. Габінэт мясьціўся ў маім собскім доме, які ў часе навукі ў школе будаваў сваімі рукамі. Пасьля заканчэньня школы фізіятэрапіі застаўся ў ёй выкладчыкам анатоміі й марфалёгіі й там працую й да сяньня. У 1956 г. ажаніўся, маю трое дзяцей. Ад 1960 г. працую таксама ў прыватнай мастацкай школе Жульяна выкладчыкам марфалёгіі, а ад 1972 г. у дзяржаўнай школе фізіятэрапіі Сант Морыс.

**Ул. Ш.**: Біяграфія гэткая багатая ды шматбаковая, што ня лёгка й выбраць, што тут найважнейшае. Давайце пачнем храналягічна. Як Вы казалі, нарадзіліся ў Кашалеве пад Навагрэдкам, сярод лясоў, якія ў сваёй творчасьці ўвекавечніў наш суродзіч Адам Міцкевіч. Кашалева, Сьвіцязь, Тугановічы, Завосьсе, Ліда, Навагрэдак апяяныя ў ягонай паэзіі. Якія ў Вас успаміны з роднага кутка Беларусі?

**М. Н.**: Чар роднага краю адчуў я з самага маленства. Кашалеўскія лясы, гэта наваколле, у якім я рос. Навет і калі вучыўся ўжо ў Навагрэдку, ад іх я не аддаляўся, бо бываў там амаль кажную нядзелю. Няма сумлеву, што краса роднае зямлі дала мне зачаткі адчуваньня хараства. Таксама Навагрэдак із сваімі таямнічымі руінамі замку ды за замак старэйшай, магчыма, Барысаглебскай царквой з XII ст., калісьці мітрапалітальны сабор літоўскага мітрапаліты. Царкву гэтую я ціраз пераносіў на паперу. Тут была калыска Вялікага Княства Літоўскага. Быў у Навагрэдку й музэй Адама Міцкевіча ды капец насыпаны яму ў пачатку трыццатых гадоў, з польскае ініцыятывы, але пры падтрыманьні і ўдзеле беларускага грамадзтва, бо-ж быў ён нашым суродзічам, нашым па імі, паходжаньні й душы, называў сябе „Ліцьвіном", як называлі тады нас усіх. Нельга не аддаць тут чэсьці й майму настаўніку ў беларускай гімназіі Рамашкевічу. Ён асаблівую ўвагу зьвяртаў на прыроду ды часта вадзіў нас на рысаваньне з натуры, а рысаваць любіў я ад маленства.

**Ул. Ш.**: Толькі раз давялося мне наведаць гэтыя ваколіцы, нейдзе ў 1936 ці 1937 годзе з групай экскурсантаў-чыгуначнікаў із Стоўпцаў. Ехалі мы на самакатах з Наваельні й праяжджалі праз Кашалева, якое гэтак было акунутае ў моры зелені ў даліне, што з дарогі ледзь колькі




Помнік на магіле кампазытара Міколы Равенскага, 1956

стрэхаў было відаць. Цудоўная затое панарама раскрывалася на Навагрэдак, збудаваны на ўзьнятай адзінотнай гары, натурай быццам знарок для яго насыпанай. Зьведалі замчышча, музэй, рынковыя галі, а вярталіся дарогай іншай, на Баранавічы, паўз возера Сьвіцязь, Валеўку й Гарадзішча, Калдычэўскае возера ды каля Завосься. Цудоўнае падарожжа. Быццам для завяршэньня ўсяе красы, ужо перад Баранавічамі засьпела нас навальніца з маланкамі й пярунамі. Абраз і жудасны, і поўны нявымоўнага хараства. Як-жа ўсё гэта блізкое да тога, што больш як век таму назад апісваў Міцкевіч... Дык як гэта сталася, што народжаны ў краіне хараства краявідаў і паэзіі й маючы нахіл да рысунку, Вы выбралі ўсё-ж скульптуру?

**М. Н.**: Да скульптуры дайшоў я пазьней, калі быў ужо за межамі бацькаўшчыны. Я ўжо казаў, што пад канец вайны апыніўся ў 2-м Корпусе польскай арміі. Тады я й пазнаў Італію, і ня толькі хараство яе краявідаў, якое пабачыць мроілі — ды й сяньня напэўна мрояць — шмат якія мастакі эўрапейскае поўначы. Тады меў нагоду пазнаць і мастацкія скарбы Італіі, перш за ўсё скульптуру, якою густа заселеныя Флярэнцыя, Рым, Нэапаль... Італіянская скульптура кранула мяне да глыбіні душы й там у мяне насьпела пастанова быць скульптарам.

З навукаю ў Парыжы справа была ня простая. З войска не паедзеш, куды захочаш. Ды мне крыху ўсьміхнулася шчасьце. Працаваў я ў вайсковай канцылярыі й таму быў бліжэй культурных справаў. Прыкладам, браў удзел у конкурсе паштовых марак для войска — заняў чацьвертае месца. Займаўся таксама спортам і зь некаторымі дасягненьнямі. Гэта дапамагло майму генэралу падпісаць мне пропуск на выезд у Францыю для студыяваньня мастацтва. І пропуск гэты, здаецца, я добра выкарыстаў.

**Ул. Ш.**: На якія сяродкі маглі Вы лічыць, падаючыся ў чужы край, у нязвычайную для Вас мітусьню ягонае сталіцы?

**М. Н.**: Незарадным я ніколі ня быў. Меў тады ўжо некаторыя ашчаднасьці з мае жаўнерскае платы й гэта дазволіла зачапіцца, каб стаць на цьвёрды грунт. Пасьля дастаў нешта й з дэмабілізацыйнага фонду. Колькі гадоў пазьней атрымаў невялічкую стыпэндыю ад Рэлігійнае Місіі для Беларусаў, на чале якой тады быў а. Леў Гарошка. Меў таксама невялікую стыпэндыю ад ІРО (Міжнародная Арганізацыя Дапамогі). Да гэтага, трэба ведаць, у Францыі вышэйшыя школы бясплатныя. Утрымацца, адзецца, купіць кнігі затое трэба ўжо самому. Таму хапаўся за розныя часовыя працы, як дагляд дзяцей на летніх калёніях ды падобныя.

**Ул. Ш.**: Калі ды як завязаўся ў Вас кантакт зь беларускай грамадой у Францыі?

**(Працяг на 4-ай бачыне)**

*МІКОЛУ НІКАНА*

*Заступніка старшыні Рэдакцыйнае Калегіі „Беларус" на Аўстралію, ейнага няўтомнага кальпартэра й зьбіральніка ахвяраў на Выдавецкі Фонд „Беларуса" ў Мэльбурне дый наагул гарачага энтузыястага й папулярызатара роднага друкаванага слова в і т а е м зь 70-мі ўгодкамі янонага жыцьця й ш ч ы р а ж а д а е м Яму добрага здароўя, жыцьцёвае памыснасьці й гэткіх-жа плённых, як і дагэтуль, вынікаў у ягонай далейшай нацыянальнай дзейнасьці!*

*Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус"*

# НА 70-ыя ЎГОДКІ МІКОЛЫ НІКАНА

3-га студзеня сёлета Міколу Нікану споўнілася 70 год жыцьця.

Адзначаючы гэтыя ўгодкі, варта хоць крыху прыгадаць аб тэй ролі, якую ён адыгрывае ў беларускім жыцьці Мэльбурну ды й наагул у Аўстраліі вось ужо больш за 25 гадоў. Мікола Нікан прыехаў у Аўстралію ў 1951 годзе з Ангельшчыны, дзе ўжо ад заканчэньня Другое сусьветнае вайны прыймаў вельмі актыўны ўдзел у беларускай нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці, будучы ініцыятарам заснаваньня й удзельнікам у працах шмат якіх беларускіх арганізацыяў.

У Мэльбурне Мікола Нікан і ягоная жонка сьв. пам. Ліда адразу ўлучыліся ў беларускае нацыянальна-грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё. Ня было такой дзялянкі гэтага жыцьця, у якой ня прыймаў удзелу Мікола Нікан. Ён быў ініцыятарам стварэньня ды шматгадовым кіраўніком беларускай вячэрняй школы, адным зь ініцыятараў куплі Беларускага Дому ў Мэльбурне, арганізатарам і кіраўніком беларускай бібліятэкі, адным з арганізатараў Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, які рэпрэзэнтуе тут усе беларускія арганізацыі. Ён-жа й сяньня ёсьць сакратаром гэтага Камітэту, зьяўляючыся адказным ня толькі за канцылярыю, але й за шмат якія дзялянкі дзейнасьці гэтае арганізацыі. Мікола Нікан быў ініцыятарам скліканьня Першай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў 1976/77 гадох, ён урэшце ўжо ад шматлікіх гадоў рэпрэзэнтуе Беларускі Цэнтральны Камітэт у розных міжнацыянальных арганізацыях.

Дзейнасьць Міколы Нікана не абмежваецца аднак толькі нашымі мясцовымі аўстралійскімі справамі. Ён зьяўляецца заступнікам старшыні Рады БНР, многія гады быў карэспандэнтам „Беларуса" й ёсьць сяньня сябрам Рэдакцыйнае Калегіі гэтай газэты, ейным кальпартэрам ды зьбіральнікам ахвяраў на Выдавецкі Фонд гэтай газэты.

Любасьць да ўсяго беларускага, асабліва-ж да роднага слова, да нашай мовы выявілася ў Міколы Нікана яшчэ ў тым, што ён доўгія гады распаўсюджвае беларускую прэсу, кніжкі, зьбірае ахвяры й падпіску на нашыя выдавецтвы. Праца гэтая ня лёгкая — ахвярнасьць Беларусаў у Аўстраліі ня ёсьць вялікай, расьцярушанасьць нашых суродзічаў у трохміліённай мэтраполіі Мэльбурну ня спрыяе ўтрымліваньню асабістых кантактаў.

Усебаковая дзейнасьць Міколы Нікана ня раз зьвяртала ўвагу нашых ворагаў ды адурманеных імі нашых мясцовых нясьведамых людзей. Ад часу да часу ў канадыйскай беларускамоўнай газэціне зьяўляліся злосныя ілжывыя напады на Міколу Нікана, пісаныя ці інсьпіраваныя рознымі „дастойнымі" ці „высока дастойнымі" пэрсонамі, ад часу да часу ёсьць і тут, у Аўстраліі, ілжывыя асабістыя паклёпы на яго, як працяг неразумнай і сьведамай шкоднай акцыі супраць нашай інтэлігенцыі, акцыі, якая вядзецца нашымі збаламучанымі „дзеячамі". Трэба падчыркнуць вялікі беларускі патрыятызм Міколы Нікана — ніякія пэрсанальныя напады не змаглі зламаць волі й энэргіі гэтага чалавека да працы для дабра нашага народу й бацькаўшчыны.

У вапошнія гады на долю Міколы Нікана выпала перанесьці шмат няшчасьцяў у васабістым жыцьці. Пажадайма-ж Яму шмат шчасьця, здароўя й доўгіх яшчэ год жыцьця ды плённай грамадзкай працы. Plurimos annos, Мікола!

**А. Калодка**

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

# ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!

Вашае падсумаваньне дасягненьняў беларускай эміграцыі ў артыкуле „На мяжы абодвых гадоў" („Беларус" № 248, сьнежань 1977), на маю думку, вельмі ўдалае й зрабіла на мяне глыбокае ўражаньне, асабліва прызнаньне, што гэтыя дасягненьні сталіся магчымымі дзякуючы „супольнаму нацыянальнаму фронту ўсіх ідэйных элемэнтаў эміграцыі", ідэя якога была „заініцыяваная газэтай „Беларус" ад колькіх год таму..."

Не ў дакор тут „Беларусу", але шкада, што заняло колькі дзесяткаў гадоў дайсьці да гэтага перакананьня шмат якім людзям. Да рэчы зацеміць, што ідэя агульнага фронту не такая ўжо новая й унікальная. Ідэю гэтую я сугэраваў на працягу апошніх дваццацёх гадоў у васабістых гутарках шмат зь кім, пісаў у „Бацькаўшчыну" й колькі разоў у „Беларускую Моладзь". Ідэя гэтая была практычна ўжыцьцяўляная на працягу апошніх пятнаццацёх гадоў у васяродку майго пражываньня зь вельмі добрымі рэзультатамі. Добра ведаю колькі актыўных асоб, што кіраваліся ёю ў сваёй грамадзкай дзейнасьці. Застаецца толькі вітаць добры пачын „Беларуса", які дазволіць пашырыць і спапулярызаваць гэтую ідэю сярод шырокага грамадзтва.

Мяне вельмі цешыць, што эміграцыйная эліта, а за ёю й нашае грамадзтва ў замежжы нарэшце зразумелі вельмі старую мудрасьць, што „ў еднасьці сіла", што калі ёсьць супольная мэта — у гэтым выпадку абарона беларускага народу й дасягненьне незалежнасьці Беларусі — то не павінна быць шмат супярэчнасьцяў паміж тымі, што актыўна й шчыра імкнуцца да дасягненьня гэтае мэты. Зразумела, іхныя сродкі, што вядуць да гэтае мэты, могуць розьніцца час ад часу — гэта нармальна.

Гаворачы аб сродках, тут можна дадаць да іх яшчэ адну сфэру дзейнасьці, пайменна ўдзел у палітычным жыцьці прыбраных краёў, ізноў ня з мэтай дэнацыяналізацыі, а каб памагчы нашай агульнай мэце, пра якую вышэй казалася. Хіба ўжо нікому не сакрэт, што толькі пісаньне „мэмарыялаў" уяўлянымі ці запраўднымі „экзыльнымі ўрадамі" ў розныя ўстановы Вольнага Сьвету не здабудзе незалежнасьці ні Беларусі, ні нікому іншаму. Трэба дзеіць праз палітычныя органы, як гэта робяць, прыкладам, нашыя прыяцелі Беларусы ў Нью Джэрзі. Думаю, ня будзе сорамна сказаць, што можам шмат чаго навучыцца ад Жыдоў.

**30 сьнежня 1977 г.**

**Ю. Ар-х**

# БЕЛАРУСЫ Ў ДАВАЕННАЙ ВАРШАВЕ

(ЖМЕНЯ ЎСПАМІНАЎ)



**Група Беларусаў з паэтам Гальляшом Леўчыкам за супольным сталом на беларускай вечарыне 6 лютага 1937 г. у Варшаве: трэйці зьлева направа — Мікола Орса, чацьверты — Гальляш Леўчык, сёмы — Гінько, восьмы — Уладзімер Брылеўскі**

Думаю, што мала хто з чытачоў „Беларуса" ведае, што перад Другой сусьветнай вайной, напрыканцы 30-ых гадоў, у Варшаве існавала беларуская арганізацыя. У той час, калі ў Заходняй Беларусі пад Польшчай беларускае арганізацыйнае жыцьцё было польскімі адміністрацыйнымі ўладамі амаль цалком зьліквідаванае, шмат якія беларускія дзеячы й культурна-грамадзкія працаўнікі былі гэнымі ўладамі перасьледваныя — сядзелі ў турмах і ў Картускай Бярозе або, у лепшым выпадку, былі высланыя ў этнаграфічную Польшчу, у Варшаве напачатку 1937 году было заснаванае Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства.

Польскія ўлады (урадавы камісарыят сталічнага гораду Варшавы) далі дазвол на заснаваньне новай беларускай арганізацыі толькі таму, што яна паўстала ня ў Вільні ці ў іншым горадзе на беларускім этнаграфічным прасторы, а ў Варшаве й была арганізацыяй культурна-асьветнай (паводля статуту), а не палітычнай. Памагло й тое, што сярод сяброў-заснавальнікаў былі такія ведамыя асобы, як прафэсары Варшаўскага ўнівэрсытэту Казура й Рутковскі (абодвы беларускага паходжаньня), у ляяльнасьці якіх польскія ўлады ня сумляваліся. Апрача іх, сябрам-заснавальнікам быў беларускі фабрыкант (собсьнік цагельні) Гапановіч. Ініцыятарам, галоўным заснавальнікам і душой арганізацыі быў былы грамадавец з Глыбоччыны Пётра Ластаўка, гарачы беларускі патрыёт. Гэта ён хадаўся, каб атрымаць дазвол, і правёў усю падрыхтавальную працу: напісаў заяву да ўладаў, апрацаваў праект статуту й упрасіў Казуру й Рутковскага, каб згадзіліся быць сябрамі-заснавальнікамі Таварыства.

Ядром новазаснаванай арганізацыі, вакол якога пачалі гуртавацца Беларусы, пераважна работнікі, што жылі й працавалі ў сталіцы Польшчы, былі беларускія студэнты Варшаўскага ўнівэрсытэту, Палітэхнікі й іншых варшаўскіх вышэйшых школаў. Студэнты Беларусы праваслаўнага багаслоўя пры Варшаўскім унівэрсытэтце, пераважна зрусыфікаваныя сьвятарскія сыны, але для будучай кар'еры запісаныя праваслаўнымі Палякамі, да беларускай арганізацыі ня прымкнулі. Некаторыя зь іх, праўда, падчас Другое сусьветнае вайны, калі пачаўся беларускі нацыянальны ўздым, улучыліся ў працу на беларускай культурна-асьветнай ніве.

У хуткім часе студэнт Панько зарганізаваў беларускі студэнцкі хор. Сьпеўкі адбываліся ў памешканьні Ўкраінскага Студэнцкага Саюзу на Старым Месьце. З часам Таварыства займела сваё собскае памешканьне з заляй, кухняй і буфэтам у цэнтры гораду пры Сьвентакржыскай вуліцы, у якім чыталіся лекцыі, рэфэраты й ладзіліся канцэрты самадзейнасьці.

Бадайшто найвялікшай імпрэзай была беларуская вечарына-баль, зладжаная 6 лютага 1937 году дзякуючы стараньням Пётры Ластаўкі ў канцэртнай залі Вышэйшай Музычнай Школы імя Карловіча, у якой ён працаваў бібліятэкарам. На пачатку вечарыны, перад танцамі, адбыўся канцэрт, у якім выступілі: студэнцкі хор пад кіраўніцтвам Панька, які выканаў некалькі беларускіх народных песьняў, салістка-сьпявачка, студэнтка Варшаўскай Кансэрваторыі, Чарняўская й піяністка Трамбіні-Казура. Пад канец вечарыны ў суседняй меншай залі за супольным сталом група студэнтаў з паэтам нашаніўскай пары Гальляшом Леўчыкам у цёплай сяброўскай атмасфэры прыемна праводзіла час, слухаючы дэклямаваньня ім собскія вершы й сьпяваючы разам зь ім беларускія песьні.

У гэным годзе ў Варшаву зь Міляну (Італія) пераехаў славуты беларускі сьпявак-тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі й пачаў выступаць у Варшаўскай опэры й даваць канцэрты ў залі Варшаўскай кансэрваторыі ды іншых канцэртных залях Варшавы. У другой частцы кажнага канцэрту ён сьпяваў беларускія народныя песьні ў гарманізацыі ведамых кампазытараў. Дзякуючы галоўна стараньням Пятра Ластаўкі, ведамая варшаўская фірма „Одэон" выпусьціла некалькі грамафонных кружэлак зь беларускімі песьнямі ў выкананьні Забэйды-Суміцкага.

Аднак знайшліся польскія шавіністыя, якім беларуская арганізацыя навет у Варшаве была, мякка кажучы, не да спадобы. У хуткім часе пасьля згаданай вечарыны ў польскім тыднёвіку „Вем вшыстко" („Усё ведаю"), які дэмакратычныя польскія газэты называлі „органам шантажыстаў", зьявіўся вялікі пагромны артыкул-данос на Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства, поўны злоснай хлусьні. Памятаю, як у абсальвэнта юрыдычнага факультэту Ўнівэрсытэту Аркадзя Арэхвы, які жыў у той час грандыёзным галоўным Студэнцкім Доме на пляцы Нарутовіча, зьйшліся студэнты — Мікола Орса, Гінько, Міхась Вітушка, Бахар, Чатырчанка й ніжэй падпісаны, каб супольна прачытаць гэны артыкул і напісаць спраставаньне-пратэст. Ніякіх дрэнных кансэквэнцыяў для Беларускага Культурна-Асьветнага Таварыства хлусьлівы артыкул ня выклікаў і яно прайснавала да пачатку Другой сусьветнай вайны ў 1939 годзе.

**Уладзімер Брылеўскі**

# ГУТАРКА З БЫЛЫМ СЯБРАМ

(АДКАЗ МАКСІМУ ТАНКУ)

Пачну, гэтак кажучы, ад лірыкі: любіў, люблю й буду любіць даваенныя, ваенныя дый некаторыя паваенныя вершы Максіма Танка, гэткія, як: „Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай...", „Паслухайце, вясна ідзе", „Расьце на высокім кургане сасна, каб ведалі", „Гэта быў адзін з майстроў вялікіх — звалі яго Люцыян Таполя..."

Доўга давялося-б пералічаць загалоўкі й радкі ўсіх улюблёных мне вершаў Максіма Танка. І любіў я Максіма самога, доўга любіў і шчыра, і перакладаў не за грошы, а для душы, вершы ягоныя, паэмы ды высака цаніў ягоную дружбу. Прывёз нат із сабой у Амэрыку кнігу Танкаву „Каб ведалі" з такім вось аўтографам:

„На добры ўспамін аб нашых сустрэчах і дружбе, якой ня будзе канца, дарагому Андрэю Клёнаву. Максім Танк. Менск. 14. І. 1948 г."

Але канец дружбы гэтай надыйшоў, калі наваччу ў мяне Максім з таленавітага, Богам адзначанага паэты, зь сінявокага, вясёлага, шпарканогага чалавека пертвараўся ды пертварыўся ў савецкага саноўніка-бюракрата, у дэпутата Вярхоўных Саветаў Беларусі і ўсесаюзнага, у члена ЦК кампартыі Беларусі і гэтак далей, і гэтак далей. Лічыць не пералічыць усіх тытулаў дый ордэнаў паэты Максіма Танка. Нажаль, назоўнік „паэта", як і ўсе назоўнікі, ня мае прошлага часу, як дзеяслоў „любіць", — ато я й слова „паэта" ўжыў-бы ў прошлым часе.

Бо як сьвятло ня сумяшчаецца зь цемрай, як агонь ня сумяшчаецца з вадой, як праўда не сумяшчаецца з маною — гэтак і паэта ня сумяшчальны з саноўнікам. А цяпер Танк — саноўнік, высокі партыйны саноўнік.

Паэзія — гэта сумленьне. А сумленьне для партыйных саноўнікаў толькі ня выкарчаваны перажытак мінуўшчыны. Так што й паэзія Танка — яшчэ раз адзначу — высокая паэзія — засталася таксама ў мінуўшчыне. Тое, што Танк піша сяньня ды піша шмат — да запраўднае паэзіі мае дачыненьне толькі фармальнае — вершаваныя радкі, з рыфмамі, ці бяз рыфмаў, у якіх дзе-ня-дзе прамільгне жывы радок, захаваны ад мінулых дзён.

Але сяньняшні артыкул мой выкліканы ня вершамі Максіма Танка — выкліканы ягоным інтэрвю з супрацоўнікам газэты „Літаратура і Мастацтва" ў нумары ад адзінаццатага лістапа летась. Інтэрвю гэтае займае дзьве газэтныя бачыны ды напханае, як завязаць, мёртвай партыйнай прапагандай трасканінай і на ніякі водгук не заслугоўвала-б, але адзін пункт няпраўды Танкаўскае проста нельга абмінуць.

Супрацоўнік „ЛіМу" папытаўся ў Максіма Танка, перад гэтым падказаўшы яму адказ на сваё пытаньне:

„Сапраўды, пісьменьнікі нашы — не пасыўныя сузіральнікі ў жыцьці, да ўсяго ім справа, і ніхто ня скардзіцца на якія-б там ні было абмежаваньні ў свабодзе творчасьці, у чым любяць „пашкадаваць" савецкіх пісьменьнікаў на Захадзе. Мне здаецца, Яўген Іванавіч, што вы, выходзячы із свайго немалога жыцьцёвага й творчага вопыту, маглі-б тое-сёе сказаць тым „дабрадзеям" аб лёсе паэты, творцы ў сацыялістычным грамадзтве і ў сучасным капіталістычным сьвеце..."

І на гэта Максім Танк адказаў:

„Так, на маю долю якраз і выпала на пачатку творчасьці пазнаёміцца зь іх хвалёнай „свабодай" ува ўмовах былой Заходняй Беларусі. Ці не аб тэй-жа „свабодзе" гаворыць і той факт, што ўсе пісьменьнікі Заходняй Беларусі прайшлі праз астрогі й турмы буржуазнай Польшчы? Гэта спаўна зьведалі на сабе Піліп Пестрак, Валянцін Таўлай, Міхась Машара, Міхась Васілёк, Мікола Засім..."

Так, праўда, Максіме, ня толькі пяць названых паэтаў сядзелі пад Польшчай у турме, ты й сам сядзеў у віленскіх Лукішках. Але Польшча тады, і ты гэта ведаеш лепш за мяне, тагачасная Польшча зусім ня была, як, дарэчы й цяпер, краінай дэмакратычнай. Польшча мела тады выяўна выражаныя дыктатурныя адзнакі. Тым ня менш, Максіме, ты сядзеў не за вершы, не за творчасьць, а за падпольную камсамольска-партыйную дзейнасьць, забароненую антыдэмакратычным законам; другое, у польскай турме ты ня толькі стварыў свае лепшыя раньнія вершы, але перабаўляў іх на волю, і там яны друкаваліся. Мала таго, ты й твае таварышы выдавалі ў Лукішках, у турме, рукапісны, пацяперашняму самвыдавецкі часапіс. З тваіх-жа словаў ведаю гэта. Як вы гэта рабілі й як вам гэта ўдавалася — гэта ўжо іншая справа. Ня дай Божа паэтам сядзець у турме, ні ў віленскай, ні ў менскай, ні ў маскоўскіх, ні ў славутай уладзімірскай. Але зноў-ткі, з тваіх словаў, Максіме, ды із словаў Піліпа Пестрака, зь якім я таксама прыяцеляваў і раман якога пра барыкады перакладаў у расейскую мову — дык вось, з вашых словаў я ведаю, што турмы польскія, у якіх вы сядзелі, былі адначасна й вашымі ўнівэрсытэтамі, нат Маркса, Энгельса, Леніна-Сталіна вы маглі там чытаць. І гэта ў тагачаснай Польшчы.

І тут я нагадаю табе й разам папытаюся: выбачай, тытулы твае зрабіліся даўгія, як Мядзельскі шлях, які ты некалі так добра апісаў, а памяць, відаць, прыкарацілася, — скажы мне, Максіме, калі ласка, што сталася тымі-ж часамі, якраз тымі-ж часамі — зь іншымі паэтамі, прозьвішчаў якіх ты ў сваім інтэрвю не назваў, з паэтамі не Заходняе Беларусі, тады пад Польшчай, а Беларусі Савецкае: Міхасём Чаротам, Уладзімерам Жылкам, Уладзімерам Дубоўкам, Язэпам Пушчам, Нічыпарам Чарнушэвічам, Алесем Дударом, Андрэем Александровічам, Анатолем Вольным, Тодарам Кляшторным, Сяргеем Дарожным, Уладзімерам Хадыкам, Валерам Мараковам, Сяргеем Фаміном, Юркам Лявонным, Янкам Туміловічам, Янкам Бобрыкам, Алесем Звонакам, Міколам Хведаровічам, Зьмітраком Астапенкам, Юліем Таўбінам — дваццаць прозьвішчаў! Што сталася з гэтымі савецкімі паэтамі, паэтамі Савецкае Беларусі? І ня толькі зь імі — зь дзесяткамі іншых паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў? О, Максіме, Максіме, ты гэта ведаеш добра, але ты не гаворыш аб гэтым. А забывацца гэтага нельга. І нельга маўчаць. І мы аб гэтым і пагаворым. Таксама як аб свабодзе творчасьці на Захадзе і ў СССР.

Перада мной на стале часта ляжаць тамы „Анталогіі Беларускае Паэзіі", добра выдадзенай у шэсьцьдзесят першым годзе ў Менску, і другі том анталёгіі гэтай цірэдчас здаецца мне цеснай брацкай магілай: з сараку двух паэтаў, прадстаўленых тут, ня менш за палавіну былі пасаджаныя або высланыя, і толькі шасьцёра зь іх дачакаліся так званай рэгабілітацыі. Але нат яны вершаў у савецкіх лягерах, як ты, Максіме, у польскіх Лукішках, ня пісалі ды на волю не пасылалі іх. А калі й выйшлі на волю, дык людзьмі зламанымі фізычна й маральна. Не, не замоўчваць гэта трэба, а трэба аб гэтым крычаць! І здымаць перад загубленымі шапкі.

Але вернемся да словаў Танкавага інтэрвю, прысьвечаных свабодзе творчасьці на Захадзе, гэта значыць у дэмакратычных краінах, і ў Савецкім Саюзе, у краіне таталітарнай. Танк кажа:

„Нам часта прыходзіцца бываць за межамі нашай краіны, знаёміцца з выдатнымі прагрэсыўнымі пісьменьнікамі Захаду, становішча якіх ні ў чым ня стала лепшым за наша ў той час, наадварот ува ўмовах войстрай ідэалягічнай барацьбы, барацьбы за мір, разрадку міжнароднае напружанасьці, іх перасьледуюць, ня друкуюць, усяляк стараюцца замоўчаць, абыйсьці, або навет фізычна зьнішчыць.

Так выглядае хвалёная свабода творчасьці на Захадзе.

Мы, савецкія пісьменьнікі, творым у надзвычайна спрыяльных умовах, у здаровай маральнай і палітычнай атмасфэры, пры ўсебаковай падтрымцы нашага ўраду, нашай грамадзянскай думкі й нашых творчых арганізацый..."

Гэта ўсё кажа Максім Танк. Можна было-б цытаваць яго далей. Але досыць і гэтага. Вось гэтыя словы Танкавы, гэтая хлусьня найбольш і змусілі мяне адгукнуцца на ягонае інтэрвю ў „ЛіМе".

Трыццаць тры гады, з саракавога па семдзесят трэйці, я сам належаў да Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў, пакуль з радасьцяй, зь вялікай душэўнай палёгкай назаўсёды здаў свой „членскі білет" перад выездам за мяжу. І я, бязумоўна, маю маральнае права сказаць былому майму сябру паэту Максіму Танку, што думаю, і не адзін я, аб надзвычайна спрыяльных, як Танк заявіў — умовах для творчасьці ў Савецкім Саюзе. Ды я больш за чатыры гады за межамі гэтых „спрыяльных умоваў". І хто-небудзь, можа, і скажа: ня цяжка пярэчыць Танку, жывучы ў Нью Ёрку. І каб гаворка з Танкам была, як кажуць, на роўных, ня я адкажу Максіму з-за акіяну — яму за мяне адкажа, а праўдзівей ужо адказаў у лісьце нідзе, нажаль, апрача самвыдавецтва, у Савецкім Саюзе ня выдрукаваным — адказаў таленавіты й добра ведамы савецкім чытачом, у тым ліку Беларусам, дый сам, як мне думаецца, зь Беларусаў — пісьменьнік Георгі Уладзімаў: „Уладзімаў" ягоны псэўдонім, ягонае запраўднае прозьвішча — Валасевіч.

У лісьце, ськіваным 10-га кастрычніка летась у Маскве да праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў СССР адным з сакратароў якога і Максім Танк, Георгі Ўладзімаў піша (цытую найважнейшыя мясьціны гэ-

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)



мы знаходжаньня свайго собскага „голасу" ды вызначэньня свае собскае сфэры, пастанаўленьня для самых сябе, ці паэта павінен быць сумленьнем грамадзтва, ці, як сказаў-бы Драйдэн,[22] ён павінен імкнуцца найперш і найбольш упрыемняць. Ёсьць таксама дадатковая праблема спрабаваць стварыць „нацыянальны" стыль у літаратуры. Гэта не праблема толькі для Беларусі, але гэта, пэўна-ж, праблема, якой няма лёгкага разьвязаньня. У Савецкім Саюзе яна мае адмысловае значаньне для ўсіх нерасейскіх народаў, бо ідэя аднамоўнага грамадзтва стала вісіць над імі патэнцыяльнай пагрозаю іхным родным мовам. Гэтае пытаньне шмат дыскутавалася ў Беларусі апошнімі гадамі. Некаторыя крытыкі цьвердзяць, што толькі зьмест перадае нацыянальныя характарыстыкі твору, а мова, як сродак, ня мае значаньня: пераклад захоўвае ўсё, што йстотнае. Значыцца няма ніякага сэнсу пісаць у сваёй собскай мове „мяншыні", куды лепш пісаць беспасярэдня ў мове бальшыні (гл., прыкладам, В. Д. Бармичев. **В едином союзе**. Менск, 1970 г. стр. 221-9). Іншыя адкідаюць гэты аргумэнт зазначэньнем, што гэта якраз мова надае літаратуры ейную індывідуальнасьць: „Нацыянальная спэцыфіка паэзіі выразна раскрываецца праз мову, яе плястычнасьць і мэтафарычнасьць, праз ідэяматычныя звароты, прымаўкі й прыказкі, бо ў мове адбіліся і псыхалягічныя асаблівасьці народу і асаблівасьці яго мысьленьня і ўспрыйманьня" (гл. М. М. Барсток. **Адзінства й разнастайнасьць сучаснае беларускае паэзіі.** Менск, 1973, б. 81, а таксама Н. С. Перкін. **Нацыянальнае й інтэрнацыянальнае ў літаратуры.** Менск 1971, б. б. 144-8). Маладыя паэты занялі ў гэтай спрэчцы вельмі выразнае становішча. Пішучы ў сваёй роднай мове ды пра яе, як яны гэта робяць, яны нядвузначна сьцьвярджаюць факт, што для іх гэта адзіны законны сродак выражэньня.

Нямінуча, быць можа, ёсьць пэўная ступень самасьведамасьці ў іхнай перачуленасьці сваім родным краем. Гэта, сваім парадкам, вядзе да абмежаньня іхнага тэматычнага кругу. Іх крытыкавалі за тое, што яны пішуць зашмат пра прыроду, а замала пра сьвет, у якім жывуць, за ігнараваньне праблемаў і дасягненьняў сучаснага грамадзтва, ды, заміж гэтага, уцяканьне ў селавую ідылію (гл. **На стрыжні часу. Зборнік крытычных артыкулаў.** Пад рэдакцыяй Д. Бугаёва й І. Кудраўцава, Менск, 1973 г., б. б. 191-203, 212-238). Да некаторых крытыка справядлівая, але віна палягае менш у выбары тэмы, як у інтэлектуальнай апатыі. Яны пачуваюць (і гэта не нятыпова для маладых паэтаў наагул), што яны выканалі свой абавязак, паэтычна кажучы, выбарам „адпаведнае" тэмы... Нажаль, у паэзіі ня можа быць гэткіх найкарацейшых простых дарогаў нацянькі: паэта, а ня тэма творыць верш. Няма нічога **йстотна** паэтычнага ў прыродзе; роўным парадкам, вайна — жахлівая рэч, але вершы пра вайну не нямінуча разьлючваюць душу. (Гэта асабліва відавочна, калі параўнаць шчырае пачуцьцё ў творах тых, хто перажыў вайну ды ейныя трагічныя спадкі, да пустое рыторыкі тых, што нарадзіліся шмат год пасьля). Гэта аднак віны-заганы недасьпеласьці. Як група, маладыя паэты Беларусі падаюць шмат надзеі, і будзе цікава пабачыць, як яны разьвіюцца. Некаторыя зь іх ужо цяпер паэты значнае постаці. Іхная творчасьць заслугоўвае ды бясспрэчна здабудзе шырокае прызнаньне.

[22] Джон Драйдэн — ангельскі паэта-ляўрэат, драматург і крытык (1631 - 1700) **Рэд.**

**(Канец)**

**Шырын Акінэр**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**„Беларускі Праваслаўны Каляндар" на 1978 год** выйшаў у Мельбурне ў Аўстраліі (ратaтар) пад рэд. а. А. Кулакоўскага. Матар'ялы „Календара" (85 бач.) зьмешчаныя пабеларуску й паангельску.

**„Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады" № 2** (год выданьня 2-гі), датаваны лістападам 1977 году, выйшаў у Саўт Рывэры, Н. Дж. (гал. рэдактар — Кастусь Каліна, дрыс: P. O. Box 26, South River, N. J. 08882, U. S. A.). Бальшыня 24 бачынак гэтага ілюстраванага ратaтарнага выданьня прысьвечаная выпісам з „Кангрэсавых Запісаў" Кангрэсу ЗША прамоваў кангрэсмэнаў у сувязі з 59-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ды матар'ялам 18-га пленуму БЦР, праведзенага 3-4 ліпеня летась.

**Чародны нумар часапісу „Барацьба"** (орган Беларускага Вызвольнага Фронту, ратaтар, 24 бб.), датаваны сьнежнем 1977 году, зьмяшчае ў сабе, апрача літаратурнага матар'ялу, агляду друку й хронікі, „Кароткі агляд дзейнасьці Беларускага Вызвольнага Фронту на міжнародным форуме (1975-1977 гг.)".

**„Голас Царквы" № 48** (выданьне Рады БАПЦ, сьнежань 1977, друк, ілюстрацыі, 24 бб.) зьмяшчае: каляднае пасланьне Сабору Япіскапаў БАПЦ, артыкулы на рэлігійныя тэмы, „Да гадавіны ўстанаўленьня Наваградзкае Мітраполіі", агляд рэлігійнага стану на Беларусі і ў Савецкім Саюзе, хроніку.

**„Царкоўны Сьветач" № 26,** выданьне Царкоўнае Рады Беларускае Праваслаўнае Царквы (друк, ілюстрацыі, 36 бб., адрыс рэдакцыі той самы, што й „Бюлетэню БЦР; гл. вышэй), зьмяшчае: карэспандэнцыю „Зьезд Беларускае Царкоўнае Рады ў Паўночнай Амэрыцы", „Рукапалажэньне ў сан сьвяшчэньніка а. Пётры Саўчыца", палеміку з часапісам „Божым Шляхам", хроніку ды нэкралёг па сьв. пам. Эмануэлю Ясюку.

**Даведнік пра нацыянальныя сьвяты этнічных групаў Амэрыкі (у тым ліку й беларускае) на 1978 год** выданы асобным друкаваным выданьнем Нацыянальнай Рэспубліканскай Радай Этнічнае Спадчыны пры Нацыянальным Камітэце Рэспубліканскае партыі ў Вашынгтоне (адрыс: National Republican Heritage Groups Council of the National Republican Committee, 310 First Street, S. E., Washington, D. C. 20003). Даведнік рассылаецца на запатрабаваньне задарма.

**Рэцэнзія на кнігу праф. А. Макміліна „Гісторыя беларускае літаратуры",** што выйшла летась паангельску ў нямецкім выдавецтве Вільгельма Шміца ў Гісэне (Зах. Нямеччына), зьмешчаная ў „Літаратурным Дадатку" лёнданскае газэты „Таймс" за 16 кастрычніка летась (б. 1463). Рэцэнзэнт брытанскі праф. Джэймс Дынглі вельмі дадатна ацаніў кнігу, пра аўтара якое піша: „Прафэсар Макмілін дае магчымасьць чытачу зразумець складаную гісторыю беларускага народу ад часоў ягонае галоўнае пазыцыі ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім у пэрыядзе росквіту Княства ды праз пэрыяд заняпаду й змаганьня за нацыянальнае самасьцьверджаньне ў вабліччы пагардлівага расейскага імпэрыялізму".

**„Современник"** (№ 35-36 за 1977 г.), „часапіс расейскае культуры й нацыянальнае думкі", у нумары 35-36 за 1977 год зьмясьціў матар'ялы беларускіх аўтараў: заканчэньне працы др. Ул. Сядуры „Салжаніцын і традыцыі паліфанічнага раману Дастаеўскага", інтэрвію зь пісьменьнікам Кастусём Акулам, а таксама рэцэнзію К. Акулы на кнігу Ю. Мацкевіча „Ня трэба голасна гаварыць" (папольску). Падрабязьней пра гэтыя матар'ялы — у наступным нумары „Беларуса".

**Амэрыканская выстаўка абразоў будзе паказаная ў Менску,** пасьля двух месяцаў у Маскве, а тады ў Ленінградзе. Пра адчыненьне выстаўкі ў Маскве падала газэта „Нью Ёрк Таймс" 22 сьнежня летась. Выстаўка складаецца з рэалістычных і абстрактных малюнкаў, агульная вартасьць якіх адзінаццаць міліёнаў даляраў.

**Пра шлюб Вольгі Корбут і „песьняра" Леаніда Барткевіча,** між іншых амэрыканскіх газэтаў і часапісаў, падалі ды здымкі зьмясьцілі папулярныя тыднёвікі „Тайм" і „Піпл" (за 23 студзеня сёлета). Паводля паведамленьня гэтых часапісаў, маладыя ў сваім пашлюбным падарожжы маюць наведаць Кубу. Як выглядае, паедуць туды на гастролі таксама й „Песьняры". Пра Кубу кажацца, як пра першы супынак, дык ня выключана, што наведаюць „Песьняры" й іншыя краіны Заходняе Паўкулі.

**Аддзел беларускае хронікі ў польскім часапісе „Культура"** даволі сыстэматычна вядзе цяпер сп. Ул. Брылеўскі. Зьмешчаная беларуская хроніка і ў 12-м нумары „Культуры" за сьнежань леташняга году. Часапіс „Культура" карыстаецца папулярнасьцяй ды шарака чытаецца ня толькі на Захадзе, але і ў Польшчы.

**Др. Барыс Рагуля** быў старшынём аднаго з паседжаньняў і дакладчыкам на кангрэсе Пан-Амэрыканскага Таварыства Цыталёгіі Раку, што адбыўся ў гор. Ляс Вэгас у ЗША 15-17 студзеня сёлета. Тэмай дакладу др. Рагулі быў „Раньні дыягноз цыталёгіі раку кішак". Праведзеныя др. Рагулем у ягонай практыцы ў гор. Лёндане (Канада) досьледы й новы мэтад дыягнозу раку далі добрыя вынікі.

**Беларуская дэлегацыя на цырыноніі прысягі губэрнатара штату Нью Джэрзі Брэндана Бэрна** і на інаўгурацыйным балі ў сталіцы штату Трэнтане 19 студзеня сёлета была ў складзе спадарства Васіля й Галіны Русакоў і спадарства Вітаўта й Зоры Кіпеляў.

**Гадавы агульны сход парахвіянаў Беларускае Грэка-Праваслаўнае Царквы** ў Саўт Рывэры адбыўся 29 студзеня ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру. На сходзе быў сьцверджаны добры грашовы стан парахвіі ды былі разгледжаныя пляны працы на будучыню.

# "МОЛОДЫМ ВЕЗДЕ У НАС ДОРОГА..."

Песьня гэтая, першыя словы якой становяць загаловак гэтага артыкулу, у цэлым Савецкім Саюзе, у тым ліку й на Беларусі пяецца толькі ў мове „старэйшага брата" — расейскай. Яна й ня перакладзеная на ніводную зь нерасейскіх моваў, якіх у Савецкім Саюзе далёка за сотню. Пабеларуску яна пачыналася-б словамі „Маладым усюды ў нас дарога..." Але мы ані ня супраць таго, што нашая родная мова не ўдастоілася гэткай дыскрымінацыі. Прынамся беларускія патрыёты й у паняволенай бацькаўшчыне, і ў замежжы не патрабуюць чырванец з тае прычыны, што іхная родная мова зьнізілася да папулярызаваньня прапагандавае савецкае хлусьні.

Але пераходзім да тэмы артыкулу.

У новай савецкай канстытуцыі, апрача іншых гэтак званых „дабротаў", забясьпечанае грамадзянам СССР права на памешканьне, працу й адпачынак. Канстытуцыя, аднак, адно, а рэчаіснасьць што іншае. Вось уявіце, што вы — дзяўчына ў сьпелых гадох, працуеце ў Менску й жывеце ў інтэрнаце. І як-жа выглядае вашае памешканьне й жыцьцё ў ім?

У газэце „Літаратура і Мастацтва" (№ 46, 18 лістапада 1977) карэспандэнт гэтай газэты М. Замскі знаёміць нас з такой сытуацыяй: Мані Шпаковіч споўнілася дваццаць пяць. Яна пастанавіла зладзіць „маленькае застольле", значыцца запрасіла сяброўак і сяброў. Ды не адразу. Спачатку Маня напісала заяву „выхавацельніцы", папрасіла дазволу. А тая-ж, „жанчына суровая" да дробязяў, распытала „хто й што". Нарэшце дала згоду. І вось прыходзяць госьці, але тут на парозе „заўпарціўся вахцёр" (пабеларуску вартавы — К. А.):

„ — Трох у вадзін пакой ня пушчу!" Дарма тлумачэньні Мані, што ўсё ў парадку. „— Давай паперку!" — настойваў той. „Давялося пабегчы да выхавацелькі, каб тая напісала паперку", — інфармуе М. Замскі.

Узапраўды, паверце, такое адбываецца ў грамадзтве, што вечна пыхціць пра свой гуманізм, пра „даброты" канстытуцыі й ладу, пра давер аднаго да другога. Ну й што далей? Замскі інфармуе: „Госьці здалі свае пашпарты. Маня таксама здала свой. Вахцёр, зьверыўшы фатакарткі з „арыгіналамі", схаваў дакуманты ў шуфляду, а ў кнізе зарэгістраваў, хто і ў колькі гадзін зайшоў у інтэрнат".

Пашпарты, фатакарткі, праверка... Гэткае адбываецца ня перад брамай амэрыканскага сховішча золата ў Форт Нокс, ня ў Пэнтагоне, ані навет не на мяжы амэрыканска-канадыйскай, дзе ад нас для праезду з аднэй краіны ў другую ніхто пашпартоў ня вымагае, а перад дзьвярыма дзявоцкага інтэрнату ў акупаваным Менску!

І далей: „У Мані хлопца няма. Чатыры гады ўжо жыве ў Менску, а хлопца не займела. На фабрыцы, дзе яна працуе, — амаль адны дзяўчаты. Інтэрнат таксама жаноцкі. Колькі разоў прасілі выхавацельку арганізаваць танцы ў інтэрнаце, паклікаць гасьцей. Але тая згоды не дала: „Каб я потым бегала па вашых пакоях і шукала тых хлопцаў? А то яшчэ байструка прыдбаеце..."

Сувязь з хлопцамі й эвэнтуальнае замужжа залежыць ад кватэраў, прапіскі ў Менску. А кватэраў для сямейных няма, гадамі не дачакаешся. Некаторыя спрабуюць мур галавой прабіць. Выхавацелька іншага інтэрнату расказвае пра адзін выпадак:

„Летась тут пажаніліся дзяўчына й хлопец. Абодвы, дарэчы, інжынеры. Расьпісаліся й жылі ў розных пакоях. У ліпені гэтага году здарылася тое, што й павінна было здарыцца — Лена, так завуць маладую жонку, нарадзіла. Аж двойню.

— Ну й як вы яе павіншавалі?" — зацікавіўся Замскі.

„— Мы яе ня віншавалі, — спакойна адказала выхавацелька. — Мы ёй пазванілі ў бальніцу й сказалі, каб яна не вярталася ў інтэрнат.

— Не вярталася?

— Так. Дык што вы думаеце! Яна з мужам выклікалі міліцыю й тая іх пасяліла на ранейшае месца, маўляў, прапісаны, ня маюць права высяляць. — Такога я яшчэ ня чуў, каб з радзільнага дому з эскортам міліцыі", — дзівіцца Замскі.

Гэта вось ня эсэраўская канстытуцыя, дзе ёсьць усе „даброты". Гэта цяперашняя рэчаіснасьць у сталіцы Беларусі ды па ўсёй эсэсэрыі.

У кажным інтэрнаце ёсьць „чырвоны куток", дзе мылюць вам мазгі пра розныя ленініяны й канстытуцыі, а пагуляць маладым няма дзе, бо інтэрнаты ізаляваныя, кажны жыве, лепш сказаць, гібее, сваім жыцьцём. Кантроля з пашпартамі й здымкамі, „зьверка з арыгіналамі". Жывуць у пакоі па двое й трое. Наведаць каго, пад кантролем, можаш разы два на тыдзень. „Летам можна дамовіцца аб спатканьні на вуліцы, —інфармуе Замскі,—дый то рамантыка паэтычнага радка: „зь мілай досьвітак сустрэць" — не для іх. Пазьней гадзіны ночы ў інтэрнат лепей не вяртайся, ня пусьцяць".

Аказваецца, у Менску такіх „работніцкіх інтэрнатаў" аж 134 з колькасьцяй квартарантаў у 90 тысячаў чалавек. У маштабах рэспублікі нейдзе паўміліёну хлопцаў і дзяўчат (апошніх больш за палавіну гэтай колькасьці) жывуць у інтэрнатах. Далей Замскі апісвае некаторыя інтэрнаты й характарызуе іх. Усюды тая самая цесната й нуда пад кантроляй, дзе „жыхары паміж сабою ніякіх зносінаў ня маюць".

І колькі-ж гэткіх Маняў марыць пра каханьне, замужжа, людзкія дачыненьні! Калісьці Максім Багдановіч пісаў пра слуцкіх ткачыхаў, што „яны бяздольныя узяты у панскі двор". Цяпер, відаць, для нашых дзяўчат (ды ці толькі ткачых) такім дворам зрабілася тэрыторыя ўсіх хвабрыкаў і інтэрнатаў па ўсёй акупаванай чужынцамі бацькаўшчыне.

У тым самым нумары „Літаратуры і Мастацтва", побач з артыкулам М. Замскага, добра ведамы нам засказуслы „журналісты" й „пісьменьнік" Леанід Прокша распоўсься на цэлую бачыну пра „Сьвятло сапраўднай дэмакратыі" — пра тую-ж канстытуцыю. Мусіць ня выпадкова гэтыя два артыкулы апыніліся побач. Як зьдзек, дык зьдзек! Чаго ўжо хваліцца!

**К. Акула**

# ГУТАРКА З БЫЛЫМ СЯБРАМ

**(Заканчэньне з 5-ай бачыны)**

...„Гэты мой ліст да вас — апошні. Як бязумоўна адкідаюцца праекты вечнага рухавіка, гэтак належыцца адкінуць усе спробы кіраваць літаратурны працэс. Літаратуры кіраваць нельга. Але льга памагчы пісьменьніку ў ягонай найцяжэйшай задачы, а можна й пашкодзіць. Магутны наш Саюз пісьменьнікаў нязьменна выбіраў другое быўшы — дый застаючыся — паліцэйскім апаратам, які ўзьняўся высака над пісьменьнікамі ды зь якога разьлягаюцца хрыпатыя панукі й пагрозы — ды каб толькі яны. Не вазьмуся чытаць засталінаўскі сьпіс, каму Саюз спачатна „аформіў справу", аканаваў на мучэньне й загубу, на згасаньне ў дзесяцігодзьдзях несвабоды — задоўга — 600 празаікаў — і вы праўвеце: гэта памылкі ранейшага кіраўніцтва. Але за якім кіраўніцтвам — за ранейшым, цяперашнім, міжчасным — „віншавалі" прэміяй Пастарнака, ссылалі, як дармаеда-„туняядца" — Бродзкага, зашпурвалі ў лягерны барак Сінеўскага й Даніеля, высмальвалі трыклятага Салжаніцына, выдзіралі з рук у Твардоўскага часапіс? Нобэльскіх ляўрэатаў высьвісталі! І як ня ўзгукнуць словамі трэйцяга ляўрэата: „Лепшых сыноў Ціхога Дону паклалі вы ў гэтую яму!" Ну, можа годзе? Апамятаймася? Жахнемся? Дык-жа на гэта прынамся Фадзеевам трэба быць. Вось граніца неабарачальнасьці: калі лёсы пісьменьнікаў, чые кнігі купляюцца й чытаюцца, кіруюць тыя, чые кнігі ня купляюцца й ня чытаюцца. Нудотная шарыня... што затапляе вашыя праўленьні, сакратарыяты, камісіі, пазбаўленыя пачуцьця гісторыі, ёй ведамая адно прага безадкладнае насыці.

Застаючыся на гэтай зямлі, я, тым-жа часам, і не жадаю быць з вамі. Ужо не за сябе аднаго, але і за ўсіх вамі выключаных, „аформленых" на зьнішчэньне, на забыцьцё, якія няхай і не ўпаўнаважылі мяне, але, думаю, не ўзяліся-б пярэчыць, я выключаю вас із свайго жыцьця. Жменьцы цудоўных таленавітых людзей, чыё знаходжаньне ў вашым Саюзе здаецца мне выпадковым ды змушаным, я складаю сяньня выбачэньні за свой выхад. Але заўтра і яны зразумеюць, што званы звоняць па кожным з нас, і кожным з нас гэты звон заслужаны, кожны быў ганятым, калі выганялі таварыша...

Нясеце цяжар шэрых, рабеце, да чаго прыдатныя й пакліканыя — душэце, перасьледуйце, ня пушчайце. Але — безь мяне. Білет № 1471 зварачаю. Георгі Уладзімаў".

Вось такая, дакладна, Максіме, свабода творчасьці ў вашым Саюзе Савецкіх Пісьменьнікаў, у вашым Савецкім Саюзе.

Але досыць саюзаў. Я пачаў маю гутарку на лірычнай ноце, і скончу яе лірыкай. Але не маёй, а Танкавай. Забыўшыся за колькі радкоў, якая турэмна-жудасная была ў яго пад панскай Польшчай маладосьць, Максім Танк на канчатку свайго інтэрвію раптам прызнаецца:

„Зараз, калі маладосьць мая засталася за лясамі, палямі й рэкамі мінулых гадоў, я бачу, што ня трэба было мне асабліва сьпяшацца разьвітацца зь ёю...!"

Вось гэта дык праўда. Бо як ні цяжка было тады Беларусам пад Польшчаю, ім усё-ж схадней было тады, як цяпер пад Савецкай Расеяй.

**Андрэй Клёнаў**

# "СУВЭНІР" БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ Ў САЎТ РЫВЭРЫ

Я ня верыла сваім собскім вачам і, думаю, ня я адна, калі чытала ў „Беларусе" паведамленьне, што нашую „старадаўнюю Літоўскую Пагоню" беларускія вэтэраны Саўт Рывэру, тыя, якіх сябры, якіх папярэднікі, воіны нашай слаўнай мінуўшчыны, несьлі перад сабою, калі йшлі на сьмерць у вабароне свае бацькаўшчыны, памясьцілі на бразгушках за два з палавінаю даляры. Гэтыя словы піша жонка вэтэрана, якога ўжо няма ў жывых, каб стаць у вабароне гэтага сымбалю нашае сьвятое ідэі — незалежнасьці Беларусі, пад сьцягам якое змагаўся й ён.

**Аўстралія.**

**А. К.**

## ПРОСІМ АПЛАЦІЦЬ ПАДПІСКУ НА 1978 ГОД!

## ЛЯТУВІСКІ ДЫСЫДЭНТ У МЭЛЬБУРНЕ

26 сьнежня мінулага году адведаў Мэльбурн лятувіскі дысыдэнт праф. Томас Вэнцлова. Рада Паняволеных Народаў штату Вікторыя наладзіла ў Лятувіскім Доме зь ім спатканьне, падчас якога ён шмат расказаў аб абмежаваньні свабоды ў Савецкім Саюзе й руху супраціву наагул ды ў Лятуве ў васаблівасьці.

Прысутны на спатканьні прадстаўнік Беларускага Цэнтральнага Камітэту спытаўся ў прафэсара аб сытуацыі на Беларусі й аб беларускім руху супраціву. Праф. Вэнцлова адказаў, што бязумоўна рух супраціву існуе й на Беларусі, хоць у меншай ступені, чымся ў Лятуве. Магчыма прычынай гэтага страшэнная русыфікацыя, што шалее на Беларусі ў шмат большым разьмеры, чымся ў іншых нерасейскіх рэспубліках. Усе іншыя абмежаваньні свабоды на Беларусі ў гэткай-жа ступені, інфармаваў ён, як і ўва ўсім Савецкім Саюзе.

**А. К-а**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (месяц студзень 1978) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**І. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | П. Мірановіч | $ 25.00 |
| 2. | В. і М. М. | 25.00 |
| 3. | Місія БССР у АЗН у Нью Ёрку | 20.00 |
| 4. | А. Шукелайць | 20.00 |
| 5. | Матушка Марыя Васілеўская | 20.00 |
| 6. | Сп-ня М. Дубоўская | 20.00 |
| 7. | Б. Данілюк | 20.00 |
| 8. | Я. Чарнэцкі | 20.00 |
| 9. | Я. Цупрык | 20.00 |
| 10. | Сп-ня Г. А. | 20.00 |
| 11. | Ул. Брылеўскі | 20.00 |
| 12. | Сп-ня І. Каханоўская | 15.00 |
| 13. | А. Якімовіч | 15.00 |
| 14. | С. Шабовіч | 14.00 |
| 15. | А. Стрэчань | 10.00 |
| 16. | А. Вазноніс | 10.00 |
| 17. | В. Омэлюсік | 10.00 |
| 18. | Сп-ня А. Кузьменка | 2.00 |

**Разам: $ 306.00**

**Б. Заплачана Прадстаўніку „Беларуса" ў Нью Джэрзі сп-ру Браніславу Даніловічу:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Койка | $ 20.00 |
| 2. | А. Протас | 20.00 |
| 3. | В. Бычкоўскі | 20.00 |
| 4. | К. Колбік | 20.00 |
| 5. | М. Сенька | 12.00 |
| 6. | К. Барысавец | 10.00 |
| 7. | А. Занковіч | 10.00 |
| 8. | Г. Лубяга | 10.00 |
| 9. | С. Гутырчык | 10.00 |
| 10. | В. Сітнік | 10.00 |
| 11. | Сп-ня В. Кабушка | 10.00 |

**Разам: $ 152.00**

**В. Заплачана Прадстаўніку „Беларуса" ў Кліўлендзе сп-ру Андрэю Стрэчаню ў 1977 годзе:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Стрэчань | $ 20.00 |
| 2. | В. (далей нячытальна) | 15.00 |
| 3. | Ул. Дунец | 10.00 |
| 4. | А. Лук'янчык | 10.00 |
| 5. | К. Маталыцкі | 10.00 |
| 6. | К. Калоша | 10.00 |
| 7. | А. Шостак | 10.00 |
| 8. | а. М. Страпко | 10.00 |
| 9. | Ю. Каляда | 10.00 |
| 10. | С. Карніловіч | 10.00 |
| 11. | Я. Шымчык | 10.00 |
| 12. | Я. Раковіч | 10.00 |
| 13. | А. Яраховіч | 10.00 |
| 14. | К. Каляда | 10.00 |
| 15. | А. Кананчук | 10.00 |
| 16. | Я. Каваленка | 10.00 |

**Разам: $ 185.00**

**ІІ. ФРАНЦЫЯ:**

**„Калядны Падарунак 1977" газэце „Беларус" сп-па Аўгена Трусава й Беларусаў Ле Крэзо-Монтана-Монсо ды іхных францускіх прыяцеляў $ 132.38 (згодна з просьбай ахвяраваўцаў палавіна сабранай сумы $ 66.19 перададзена часапісу „Беларуская Моладзь") — $ 132.38.**

**Усяго разам у студзені 1978: $ 775.38.**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**